НАР. КОМ. ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР.

# ПЛУГ







№ 1 СТУДЗЕНЬ 1925

МЕНСК

Пролетары ўсіх краёў, злу

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

№ 1. Студзень 1925 г. № 1.

## Бліжэй да сялянскай гаспадаркі.

Галоўны недахват у нашай сучаснай зямельнай і агранамічнай працы ў тым, што мы сваей работай не ахопліваем сялянскія гаспадаркі арганізацыйна і замала кіруем імі. Праз гэта-ж ўсе нашы мерапрыемствы прыстаюць да сялянскай гаспадаркі, як гарох да сьцяны.

Нам патрэбна ўцяміць адну простую думку, што беларуская сельская гаспадарка складаецца амаль выключна з сялянскіх гаспадарак і пакуль мы ня знойдзем спосабу да запраўднага іх пад'ёму, у нас ня будзе ніякай працы па ўмацаваньню ўсёй сельскай гаспадаркі Рэспублікі.

Прымітыўную, неаб'яднаную, разбураную і маладаходную сялянскую гаспадарку мы павінны вывучаць і браць такой, якою яна ёсьць, і знаходзіць спосаб дзеля яе адраджэньня. Усім практычным працаўнікам трэба выкінуць з галавы ўтапічныя лятуценьні аб поўнай і неадкладнай электрыфікацыі і мэханізацыі сельскай гаспадаркі. Гэткі лятуценьнік падобен да вароны, якая сядзіць на калку і кракае, сама ня ведае пра што. Правіловая праца на бліжэйшы шэраг гадоў зьяўляецца ў тым, каб узмацніць сялянскую гаспадарку матар'яльна і ўжо праз гэта прыцягнуць яе хутчэй да электрыфікацыі і мэханізацыі.

Але перш чым ставіць пытаньне аб аднаўленьні сялянскай гаспадаркі акругі, раёну ці вёскі патрэбна вывучыць яе ў сучасным становішчы, каб правілова азначыць яе бліжайшую будучыну. А ў нас вывучэньне сялянскай гаспадаркі і цяпер яшчэ наладжана вельмі дрэнна. Сярод працаўнікоў захаваўся яшчэ дрэнны звычай пры ўсялякіх дакладах па сельскай гаспадарцы браць лічбы аб усім Саюзе і не аднаго прыкладу ці факту з сельскай гаспадаркі свае акругі, раёну ці вёскі.

Ставячы ў працы ўсіх зямельных органаў на першы плян сялянскую гаспадарку, неабходна зьвярнуць увагу на асноўныя пытаньні, якія мы лічым цяпер найпільнейшымі:

1) Як забясьпечыць зямлёю самых малазямельных і незаможных сялян, якіх у нас налічваецца прыблізна 25%?

2) Як лепш з'арганізаваць прысёлак (яго мы лічым аснаўной формай землябудаўніцтва), каб у ім можна было завесьці шматпольле, разумнае жывёлаводзтва і каб усе галіны сельскай гаспадаркі былі па магчымасьці коопэраваны.



3) Якім павінен быць прысёлак па ліку двароў, зямлі і г. д., а гэтак сама, раз у нас большасьць вёсак і сёл нязначных разьмераў, то ці ня варта было-б, ня робячы ў іх радыкальнага землябудаўніцтва, здаволіцца толькі ўвядзеньнем шматпольля, скасаваньнем вузкіх шнуроў і г. д.?

4) Дзеля таго, што ўвядзеньне інтэнсыўнага земляробства і жывёлаводзтва зьвязана з пытаньнем аб капітале, то як лепш і на што скарыстаць у кожнай акрузе і раёне нашы крэдытныя капіталы і сродкі самаго сялянства?

Можна паставіць яшчэ многа задач. Але мы ставім толькі аснаўныя і найпільнейшыя. Зямельныя працаўнікі ў сваёй працы павінны старацца конкрэтна вывучыць хваробы сялянскай гаспадаркі, каб пасьля гэтага так-жа конкрэтна выявіць і патрэбныя ёй лякарствы. Толькі гэтакім шляхам мы кранём працу наперад.

**Зьм. Прышчэпаў.**





# Як хаваць насеньне лубіну зімою.

Можна лічыць, што цяпер усім сялянам Беларусі вядома, якое вялікае значэньне мае ў гаспадарцы завесьці лубін на зялёнае ўгнаеньне. Без угнаеньня нашы глебы дрэнна родзюць. Дзе-ж гаспадар набярэ столькі гною, каб у належнай меры ўгнаіць сваё поле. Тут-та на дапамогу і зьяўляецца зялёнае лубінавае ўгнаеньне.

Лубінавае ўгнаеньне з кожным годам пашыраецца на Беларусі, але гэта пашырэньне яшчэ далёка да поўнай меры.

Значнай перашкодай зьяўляецца тое, што гадоўля насеннага лубіну мае некаторыя няспрыяючыя асаблівасьці. Асабліва цяжка зьберагчы насеньне лубіну ад порчы зімой. Кожнае буйнае насеньне нялёгка захоўваецца зімой, а лубін і яшчэ цяжэй.

Добра зімуе толькі насеньне сухое. А насеньне лубіну нялёгка высушыць. Вось чаму яно лёгка падаправае і вясной не даець усходаў.

Усякі гаспадар, які ўжывае гадоўлю лубіну на насеньне, з практыкі ведае, як пільна трэба даглядаць за насеньнем лубіну, каб зьберагчы яго ўсходжасьць.

Першым клопатам гаспадара пры захаваньні насеньня лубіну зьяўляецца прасушка насеньня, а потым захаваньне ад таго, каб яно не зьлягалася і ня прэла.

Значная бяда ў тым, што на корані лубінавае насеньне сушыць нельга, як гэта робіцца з другімі хлябамі. Стручкі лубіну, як толькі падсохнуць, пачынаюць лопацца і рассыпаць насеньне. У 2-3 дні пры гарачай пагодзе можа высыпацца больш паловы ўраджаю. Загэтым прыходзіцца ўбіраць лубін з поля крыху зеленаватым. Пасьля гэтага лубін падсыхае на полі ў снапох і ўжо менш трэскаецца. Як-жа праходзіць далейшае захаваньне насеньня лубіну?

Ёсьць некалькі спосабаў. У адным выпадку лубін захоўваецца разам з саломай, у другім без саломы.

У першым—снапам лубіну даюць добра прасохнуць на полі, і ўжо сухі лубін кладуць у стог, але ня проста. Спачатку кладзецца пласт саломы, а потым лубіну. Далей зноў пласт саломы і зьверху лубіну. Гэтак пластамі складаецца ўвесь стог. Зьверху стог добра прыкрываецца саломай і гэтак застаецца на зіму.

Пластамі саломы лубін пераклaдаецца затым, каб не зьлягаўся і ня прэў. Праз пласты саломы ў стог праходзіць сьвежае паветра, без якога насеньне хутка псуецца.

Невялікія недагляды з гэтага боку згубяць гаспадару ўвесь стог. Мала ёсьць такіх гаспадароў, які на сваім жыцьці не згнаіў хоць аднаго ці двух стагоў лубіну.

Калі ў гаспадара ня надта многа лубіну, дык магчыма хаваць яго проста ў снапох пад страхою. Для гэтага патрэбна падстаўляць, як можна вышэй, пад страхою дошку ці палена і на ім стаўляць снапы да сьцяны. У гэтакім разе трэба зьберагаць снапы ад дождж у і сьнегу. З практыкі мне вядомы выпадкі, калі пастаўлены нізка лубін, зімою жавалі зайцы.

Шэраг другіх спосабаў, калі лубін на зіму абмалачваецца, патрабуе ад гаспадара ня менш клапоту. Насеньне лубіну для свайго захаваньня патрабуе сухога памяшканьня і доступу праз увесь час сьвежага паветра, бо насеньне лубіну дыша, як і ўсё жывое.

Загэтым, насеньне і кладуць у сухім месцы і ня тоўстым слоем. Апроч гэтага, насенны ворах трэба ня меней, як у 2 тыдні раз перамешваць лапатай. Лепшым месцам зьяўляецца гара (чардак) няжылых будынкаў, дзе лубін рассыпаюць слоем каля чвэрці арш. глыбінёю.

Некаторыя гаспадары насеньне лубіну застаўляюць на зіму нявеяным ворахам, але гэтак-жа ў сухім месцы і ня тоўстым слоем.

Напэўна нельга адзначаць, які з гэтых спосабаў лепшы. Гэта больш залежыць ад тых магчымасьцяй, якія ў гаспадарцы ёсьць. Захаваньне лубіну ў снапох патрабуе шмат працы і няпэўна. Захаваньне зярном патрабуе адпаведнага будынку і г. д.

У Гомельскім павеце, дзе ўжываецца сушка збожжа перад малацьбой у асобных еўнях (авіны, осеці), я пробаваў сушыць і насенны лубін. Сушыліся снапы прывезеныя з поля і далей абмалачваліся цапамі. Насеньне абіваецца вельмі лёгка і бяз бою. Падсохшае зярно добра зьберагаецца на працягу зімы і дае добрую ўсходжасьць вясною. Гаспадары Гомельшчыны лічуць гэты спосаб найлепшым.

А калі гэта так, то магчыма на асобных сушылках сушыць абмалочанае зярно, што палегчыць і далейшае захаваньне лубінавага насеньня.

У нас на Беларусі лубін пасьпявае добра. Пры адшуканьні пэўнага і лёгкага спосабу захаваньня лубінавага насеньня зімою, Беларусь магла-б заняцца насеннай гадоўляй лубіну і дзеля тых губэрняў, дзе лубін не пасьпявае. А гэта значна павялічыць даходнасьць нашых гаспадарак.

П. Рагавы.





# Зьбірайце попел.

„Зьбірайце попел!“—гэта стары кліч агрономаў, але да гэтага часу яшчэ ня ўсе зразумелі яго. Шмат гаспадынь яшчэ і цяпер высыпаюць попел у сьнег ці ямы, або проста на вецер; яны ня ведаюць, што з кожным кашом попелу высыпаюць некалькі пудоў бульбы альбо іншага дабра.

На абавязку агрономаў Беларусі ляжыць гэты забыты кліч аб попелу занесьці ў кожную вёску і ў кожную хату, дзе толькі паліцца печ. Няхай кожны селянін ведае, што жменя захаванага попелу даець лішні фунт бульбы кораняплодаў або іншага хлеба.

## Што такое попел?

Звычайны наш попел ад перамешаных дроў (бярозы, дубу, асіны, алешніку, елкі ці хвайкі) зьмяшчае больш за ўсё вапну, калі і фосфар. Асабліва-ж каштоўны калі і фосфар, якіх у глебе найменш.

Гэтак, калі ідзе на ўтварэньне крухмалу, а фосфар патрэбен галоўным чынам дзеля зярна.

Па свайму складу і ўплыву на ўраджай, попел можа замяніць дарагія нямецкія парашкі (калійныя солі), вапну і часткаю фосфарныя парашкі. Пры ўгнаеньні попелам глебам не хапае толькі азоту, які патрэбна дапаўняць гноем.

## Пад што ідзе попел?

Найбольш патрабуюць попелу тыя расьліны, якія даюць крухмал, як бульба, буракі, морква і іншыя кораняплоды, а затым лён, гарох, канюшына і травы сенажацяй. Гэтак-жа вельмі карыстна ўгнойваць попелам і гароды. Адзін гной, хоць яго кладзецца і шмат, ня можа папоўніць расходу на калі і фосфар, якія значна ўносяцца гароднінай.

І яшчэ, як попелу шмат і яго вывозяць на поле, дык і зерновыя хлябы, а ў першую чаргу грэчка, гэтак сама значна павялічаюць ураджай.

## Спосабы ўгнаеньня попелам.

На гэта патрэбна зьвяртаць вялікую ўвагу, бо былі выпадкі няўмелага ўжытку попелу і гэта ў многіх гаспадароў адбіла ахвоту карыстаньня ім. Нельга пакідаць попел на полі рассыпаным па паверхні. Можа здарыцца, што яго пылаватыя часткі разам з зямлёю сплывуцца ў скарынку, праз якую ўсходы ня вылезуць і ў большасьці загінуць.

Лепш за ўсё рассыпаць попел перамешаным з часткаю зямлі. Пасьля гэтага можна забаранаваць попел разам з насеньнем, калі сеецца зярновы хлеб. А яшчэ лепш заараць попел да пасеву. У гэтым разе скарынкі ніякай ня ўтворыцца, а вады будзе больш, якая неабходна для раствору попела. Знача, чым раней вясной і глыбей будзе прысыпаны попел, тым лепш.

Пад бульбу ён, звычайна, кладзецца за плугам у час пасадкі. Дзеля гэтага попел мяшаюць з сырой землёю і падсыпаюць жменю ў баразну пад кожную бульбіну. Гэту працу могуць спаўняць і дзеці, якія ў торбах носяць попел і абсыпаюць бульбіны, якія разложаны па баразьне. Магчыма тут, як і ў другіх выпадках, рассыпаць попел да пасадкі, але ў гэтым разе бульба дасьць меншы прыбытак, бо значная частка попелу ня будзе скарыстана ў першым годзе.

Кладзецца попелу на дзесяціну да 100 пудоў. Але досьледы паказваюць, што і 40 пудоў павялічаюць ураджай чуць не ў паўтара раза. Загэтым, трэба лічыць, што і меншая колькасьць дасьць значны прыбытак.

## Як хаваць попел?

Трэба добра памятаць, што толькі сухі, не пабыўшы пад дажджом, попел мае тую цану, аб якой тут гаворыцца.

Пры гэтай умове добрым будзе ўсякі попел, які выграбаецца з гутаў, кастроў, хатніх печаў або паравых млыноў, заводаў, сушняў, калі іх апалам зьяўляюцца дровы.

Найбольшую каштоўнасьць мае попел грэцкай саломы, кастрыцы, а далей валежніка і зярновай саломы. На астатнім месцы стаіць попел хваёвых дроў.

Попел перамыты дажджом ці вадою, або які застаецца ў гаспадынь ад лугу, мае ў тры разы меншую значнасьць, чаму пры ўгнаеньні яго патрэбна і класьці ў тры разы больш.

Загэтым, *хаваць попел трэба абавязкова ў закрытым месцы (скрыня або засек).*

## Як праканацца ў карысьці попелу?

Каб сваімі вачыма пабачыць і дакладна азначыць карысьць ад попелу, мажліва раіць гэтакі просты спосаб: пры пасадцы бульбы на роўных загонах і роўнай глебе—некалькі рыс (радкоў) бульбы пасадзіць з попелам і бяз попелу. Капаючы-ж бульбу, абавязкова зважыць яе, як узгадованую на попелу, гэтак і ўраджай з неўгноеных рыс. Розьніца і пакажа ўплыў попелу на ўраджай бульбы.

Другі прыклад ў гародзе. Адну граду буракоў пасадзіць з попелам, а другую без яго. Калі насеньне прарасьце, дык патрэбна пакінуць на абедзьвех градах аднолькавы лік расьлін, а ў восень зважыць іх ураджай.

Пры гэтым патрэбна ведаць, што попел адчуваецца ў полі ня толькі ў першы год, але часта на другім і трэцім кораню.

Па досьледам, якія меліся ў мінулым годзе па розных паветах Меншчыны, дознана, што 40 пудоў попелу на дзесяціну далі прыбыт-

ку ў сярэднім больш 200 пудоў бульбы. Сенажаць і канюшына гэтак-жа ад попелу павялічаюць свой ураджай.

Загэтым, магчыма лічыць, што карысьць ад попелу вядома і зразумела кожнаму.

### Як сабраць больш попелу?

Бачым, што попел каштоўнае ўгнаеньне. Ён лепш, чым куплёныя парашкі. Вось чаму і патрэбна зьбіраць попел усюды, дзе толькі можна. Вёска павінна скарыстаць свой попел да астатняй жмені і даць строгі наказ гораду:

Зьбірайце попел для вёскі!
Хавайце яго ў памяшканьні!
Попел на сенажаці, гароды, паля!

Агроном **Я. Жогла.**

---

## Досьледы з сяўбою лубіна ў вёсцы Падліпцы Слуцкай акругі на Меншчыне.

Вясною 1922 года студэнтамі-беларусамі Ціміразеўскай сельскагаспадарчай Акадэміі (у Маскве) ў сваей аграномічнай працы былі пастаўлены колектыўныя досьледы з лубінам і сэрадэляю на абшары ўсяе ўсходняе Беларусі (Меншчына, Гомельшчына, Віцебшчына і Смаленшчына). Хацелі, даведацца ці ўсюды высьпяваюць гэтыя расьліны, на якім грунце лепш растуць і інш., а галоўнае—пазнаёміць беларускага селяніна-гаспадара з гэтымі надзвычайна карыснымі і цікавымі расьлінамі, якім належыць будучына ў паляпшэньні нашых гаспадарак на пясковых і супясковых глебах.

Насеньне для досьледаў (каля 40 пудоў) было адпушчана Народным Комісарыятам Земляробства Беларускай ССР коштам Банцараўскай Аграномічнай станцыі. Аднэю з такіх спроб пасеву лубіна ў **вёсцы Падліпцах Слуцкай акругі** на Меншчыне, я й маю падзяліцца з чытачамі.

Павінен абгаварыцца, што ў маю першую практыку не ўвайшла сэрадэля дзеля браку насеньня, а таксама малая колькасьць насеньня лубіну (20 фун.) прымусіла мяне пасеяць яго толькі на насеньне. Досьлед-жа з лубінам на залёнае ўгнаеньне (замест гною), за што так хваляць і шануюць яго, быў адсунуты да часоў прыдбаньня насеньня ўжо ў сваей гаспадарцы.

Вучастак для досьледаў над культураю лубіна быў выбран на сялянскай палосцы, праўда вузенькай, але роўнай, не зацененай і тыпічнай дзеля мясцовасьці. *Д*акладны пляц пасеву лубіна 55 з паловай квадратных сажняў (1/40 дзес.). Грунт—лёгкі падзол, глыбіня ворнага слою 3-5 вяршкоў, падгрунт — пясок. Угнаялася поле астатні раз у 1917 годзе, у 1921 годзе было засеяна аўсом, які даў зусім слабы ўраджай. Склад севазвароту, у які ўваходзіў дасьледны вучастак—палепшаная трохпалёўка. У папарным палетку звычайна сеюць прапашныя (бульба) ці бабовыя (канюшына, гарох, віка з аўсом).

Поле для пасеву лубіна было заворана раньняю восеньню, а вясною яшчэ раз пераворана. Сяўба адбылася 25 красавіка (25/IV) па новаму стылю. Пасеў раскідны рукамі. Колькасьць высеянага насеньня 20 фун-

таў на 55 з паловаю кв. саж. ці 21 пуд 24 фунты на дзес.; якасьць і месца гадаваньня насеньня не вядомы, адмечана малая ўсходнасьць насеньня (70%).

Пры красаваньні лубіна было адмечана па кветках два сарты: сіні і жоўты. Значная большасьць (80-90%) была сіняга.

У пачатку вэгэтацыйнага пэрыоду рост лубіна, дзякуючы сухой і халоднай вясьне, пустому полю і рэдкаватым усходам, быў слабы. У пасевах пачынала ўзрастаць пустазельле.

Але гэта, мо' залежыла і ад таго, што лубін расьліна новая на нашых палёх, а трэба каб ён меў на сваіх карэньнях **бульбачкі**, у якіх жывуць асобныя азотазборчавыя бактэрыі, ад якіх і лубін жывіцца. Але ўсе такія заводы з „працаўнікамі-бактэрыямі для ўтылізацыі і сідэрацыі паветранага азоту“ будуюцца паступова. Загэтым значны ўзрост лубіна пачаўся ў **ліпені**, калі ўстанавілася цёплая пагода і часта перападалі дажджы.

У канцы вэгэтацыйнага пэрыоду, асобныя расьліны дасягнулі ў паўтара-два аршыны пры даволі значнай грубіні сьцябла і вялікай колькасьці бакавых галінак. Агульны рост лубінавага поля быў ў аршын. Дзякуючы такому буйнаму росту і рэдкаватаму пасеву на расьлінах было адмечана шмат струкоў. Яшчэ адна характэрная адзнака. Жоўты лубін быў буйнейшы, даў больш зялёнае масы, але на ім было менш струкоў (праўда, яго і зярняты меншыя) і час яго вэгэтацыйнага пэрыоду на паўтара-два тыдні даўжэйшы за сіні.

Час зьяўленьня сізых струкоў (звычайна яго заворваюць такім на зялёнае ўгненьне пад жыта) для большасьці лубіна выпаў паміж 5-10 жніўня.

Пасьпеласьць ніжніх струкоў адмечана 30 жніўня. Каля гэтага часу яны і былі абабраны рукамі. Першы збор даў **30 фунтаў насеньня**. Поўная пасьпеласьць адмечана к 20-му верасьня. Таго-ж дня лубін быў скошан. Пасьля абмалоту атрымана зярнят чыстых **4 пуды 10 фун.**, акром саломы, мякіны і амецьця. Увесь ураджай з дасьледчага вучастку 5 пудоў, а калі пералічыць гэты ўраджай на дзесяціну, то атрымаем даволі значны лік збожжа—**216 пудоў.**

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ:

Лубін добра расьце на пустых падзольных грунтох і знаходзіць спажытак для свайго разьвіцьця там, дзе яго няма для другіх расьлін. Дае шмат зялёнае масы, якую можна заараць, як угнаеньне. Пасеяны чыстаю культураю лубін дае надзвычайна вялікі ўраджай каштоўных зярнят. Лубінам, як простым, танным і магутным сродкам, трэба папаўняць недахват гною і паляпшаць нашы занядбалыя вясковыя гаспадаркі. Зараз-жа трэба пазнаёміць з ім беларускага гаспадара, накіраваць частку нашых сіл і сродкаў на яго прапаганду, папулярызацыю і дасьледаваньне; глядзець на распаўсюджваньне зялёнага лубінавага ўгнаеньня (на пяскох асабліва), як на магчымасьць атрымаць два каласы там, дзе раней рос адзін.

Маё пажаданьне—просьба, каб усе ўдзельнікі сеткі колектыўных досьледаў з лубінам і сэрадэляю напісалі аб цікавых выніках свае карыснае працы.

Студ. Цімiразеўскай с.-г. Акадэміі **Павал Жук.**



# Што трэба рабіць зімою ў садзе?

Зіма не аслабаняе гаспадара ад дагляду за пладовым садам. Хто хоча мець здаровы сад і зьбіраць у ім многа пладоў, павінен зрабіць гэтакую работу:

1. Абвязаць усе маладыя і нанова пасаджаныя дрэвы, што-б забараніць іх ад маразоў і санцапёку, асабліва раньняй вясною, калі днём грэе сонца, а ў ночы магчымы замаразкі. Матар'ялам на абвязку дрэў ад марозу і зайцоў могуць быць яловыя і хваёвыя лапкі, а гэтакжа і кулявая салома. Яловыя лапкі трэба навязваць абавязкова на ствалы калючкамі ўніз, а—кароны дрэў—саломаю, сьцягваючы перш гальлё дрэў перавяслямі або лазою. Асабліва шчыльна трэба абвязваць дрэвы з паўднёвага боку, як найбольш падлеглага сонцапёку.

2. Утаптваць пад маладымі і нанова пасаджанымі дрэвамі першы сьнег, што забараняе карэньні ад мышэй і маразоў. Таксама некалькі разоў трэба абтаптаць сьнег і каля старых дрэў, зграбаючы яго з прагалкаў к ствалу. Гэта карысна тым, што дрэвы пазьней зацьвітуць і ўхіляцца ад мажлівых замаразкаў.

3. Паздымаць з дрэў сухія і скручаныя лісьця. У гэтых лісьцёх знаходзяцца яйкі, з якіх вясною выходзюць чарвякі і псуюць сады (зьявішча так знаёмае нашаму селяніну). Па садох Беларусі найбольш сустракаюцца матылі баярышніцы і залатагузкі. Акром лісьця гаспадар павінен пазрэзваць канцы галінак, дзе прыкметны гнёзды з яйкамі няпарнага шоўкапрада і паздымаць усе сухія плады, бо ў іх ёсьць зараза, з якой вынікае гніль пладоў. Зьнятае лісьце, гальлё і плады трэба пільна сабраць і спаліць.

**Садавод К. Х.**





# Племянныя выхавальнікі сьвіньней.

Сьвінаводзтва адна з рухавых і карысных галін сельскай гаспадаркі. А гэта за тым, што сьвіньні добра плодзяцца і найлепш аплачваюць харчы ў параўнаньні з іншай жывёлай.

У той час, калі дзеля прыросту аднаго фунта сьвініны, сьвіньні патрэбна даць харчоў у пераводзе на зярняты ад 3—5 фунтаў, карове на гэта патрэбна да 15 фунтаў зярнят.

Забойная вага сьвіньні (вага без патрахоў) хістаецца каля 80—85%, ад жывое вагі, ў рагатай жывёлы забойная вага дасягае толькі да 45—50 проц.

Сказанае належыць да сьвіньней культурных—завадзкіх, як ёркшырскія, бэркшырскія, польска-кітайскія і інш. Нашы мясцовыя сьвіньні не заводзкія і за гэтым не дасягаюць такой вялікай забойнай вагі і, што горш за ўсё—дрэнна аплачваюць харчы. Калі ня лічыць вялікай трываласьці ў дрэнных умовах утрыманьня і вялікай пладавітасьці нашых простых сьвіньней, то магчыма сказаць, што гадоўля іх ня вельмі карысна.



Буйныя ангельскія сьвіньні (ёркшыры).

Зусім іншая справа, калі нашых простых сьвіньней палепшыць прылівам крыві сьвіньней культурных, падпусьціўшы простую сьвіньню да завадзкога кнораза (вытворніка). Атрыманае племя здабывае добрую

якасьць завадзкіх сьвіньней і не траціць, аднак, вялікай пладавітасьці і трываласьці. Пры ўмовах Беларусі найлепшай пародай для паляпшэньня мясцовай сьвіньні будзе ангельская буйная і сярэдняя белыя сьвіньні. Гэтыя сьвіньні трывалыя, хутка растуць, іх рана можна выкармліваць, пры чым яны дасягаюць жывой вагі да 20—30 пудоў. Трэба адзначыць, што гэтыя сьвіньні даюць найлепшыя вынікі праз скрыжаваньне з мясцовымі і стала перадаюць патомству сваю добрую якасьць. Характэрныя асаблівасьці буйнай ангельскай сьвіньні (ёркшыраў): белае мягкае шчаціньне, вялікая галава з вялікімі стаячымі вушамі; кароткая тоўстая шыя; шырокая грудзіна на доўгім круглым тулупу, добрыя сьцегнякі і плечы; лыч сярэдняй велічыні, кароткія і здаровыя ногі; хвост доўгі, высока пастаўлены з мягкай макаўкай на канцы; парасята скора растуць і к 6-цём месяцам важаць на 5—6 п., а да году па 10—12 п. Добра ўкормленая старая сьвіньня важыць каля 30 пудоў.

У гэты час на абшарах Беларусі існуе 56 злучных пунктаў, дзе ёсьць 72 кноразы буйнай і сярэдняй белай ангельскай пароды. Азначанага ліку кноразаў бязумоўна мала і трэба старацца іх павялічыць; на гэта павінны зьвярнуць увагу зямельныя ўстановы і сельска-гаспадарчая коопэрацыя. Нарэшце, трэба й нам па прыкладу замежных сялян злучацца ў сьвінаводныя аб'яднаньні, ставячыя сваей мэтай паляпшэньне і гадоўлю сьвіньней.

**Агроном Цімашкоў.**

---

# Жарабеньне і ацёл.

У хуткім часе пачнуць цяліцца каровы і жарабіцца кабылы. Ад радоў залежыць прыбытак, або ўрон гаспадаркі.

Клапатлівы гаспадар цьвёрда памятае, калі прыпушчалася да быка яго карова, а да жарабца—кабыла і прыблізна знае тэрмін цяленьня і жарабеньня. Заўважым, што карова носіць 285, а кабыла 340 дзён, рэдка на месяц больш ці менш. К канцу гэтага тэрміну гаспадару трэба быць гатовым. У гэты час у скаціны зьяўляецца характэрныя адзнакі ацёлу ці жарабеньня: у жывёлы наліваецца вымя, яна часта лажыцца, паглядае на жывот і інш. Перад родамі жывёле трэба забясьпечыць поўны спакой, паставіць яе ў цёплым і сухім памяшканьні без скразьняку і асобна ад другой жывёлы. Харчамі можа быць добрае сена і разбоўтаная ў вадзе мука (або высеўкі). Ні ў якім разе нельга даваць сапсутых і цяжкіх харчоў. Паіць трэба чыстай летняй вадой. Пры магчымых запорах час ад часу даваць $^1/_2$-1 фунт горкай ангельскай солі.

Пачаткам цяленьня і жарабеньня лічуць выхад пухіра, які разрываецца сам і паказваецца плод. Пры нормальных родах жывёле памагаць ня трэба, а гэтак-жа ня трэба каля яе таўпіцца і крычаць. Гэта турбуе жывёлу з чаго могуць спыніцца натугі або значна павялічацца, што таксама шкодзіць жывёле. Звычайна плод ідзе да выхаду пярэднімі ножкамі, на якіх ляжыць галава, або заднімі. Нормальныя

роды канчаюцца скора. Але першыя роды, а таксама ў заморaных і слабых матак, роды прадоўжваюцца каля 6-12 гадзін. За родамі трэба пільна сачыць і калі яны зацягваюцца, натугі слабеюць і можна прадбачыць неправіловасьці, то трэба зрабіць абсьледваньне палажэньня плада. Абсьледваньне робяць рукою. Для гэтага перш трэба пазрэзваць ногці і памыць цёплаю вадою з мылам рукі да пляча; намазаць іх алеем (можна несалоным салам ці маслам) пальцы выпрастаць і, шчыльна злажыўшы, прасоўваць руку ў выхад жывёле да спатканьня з пладом, а другою прытрымоўвацца за клубы. Абмацаўшы плод, трэба шукаць галоўку і ножкі, а калі іх блізка няма, то павольна атапхнуць плод назад і пастарацца знайсьці, выпрастаць іх і накіраваць да выхаду. Калі плод ідзе перадам, то трэба галоўку палажыць на пярэднія ножкі, а калі задам, то толькі выпрастаць абедзьве нагі. Бывае, што плод ідзе да выхаду сьпіною. У такім разе неабходна, павольна атапхнуўшы яго назад, выпрастаць і прыдаць адно з раней названых палажэньняў.


Правіловае палажэньня плада.

Сілком цягнуць плод без вэтэрынара ня трэба, а калі яго няма, а роды прадоўжваюцца і пагражаюць сьмерцю жывёле, то неабходна памагаць. Для гэтага трэба мець чыстую тасьму даўжынёю аршын 4 і шыр. $^3/_4$ вярш. З абодвух канцоў тасьмы робяць сьцягваючыяся петлі. Пятля змазваецца, надзяецца на руку і прасоўваецца ў выхад жывёле, дзе, знайшоўшы ножку, надзяваюць пятлю вышэй пута (суставу) і замацоўваюць. Гэткімжа парадкам замацоўваюць пятлю і за другую ножку, а затым павольна нацягваюць тасьму. Цягнуць трэба толькі пры натугах жывёлы і роўнамерна; пры спыненьні натуг цягнуць ня трэба, а толькі прытрымоўваць, каб плод не адыходзіў назад. Тасьму цягнуць ня проста, а зьлёгку ўніз.


Даставаньне плада ў кабылы.


Палажэньне рукі з пятлёю.

Па выхадзе плада, пупавіна павінна разарвацца, а калі яна сама не разрываецца, то трэба яе разрэзаць, адступіўшы вяршкоў на 2-3 ад жывата цяляці.

У хуткім часе пасьля родаў (у кабылы 1/2 гадз., а каровы 2-3 г., выходзіць пасьлед. Часамі выхад пасьледу зацягваецца, але самому без вэтэрынара даставаць яго ня трэба. Каб пасьлед не цягнуўся па зямлі, яго падвязваюць, а пры затрыманьні можна падвесіць невялікі цяжар (некалькі фунтаў).

Усе выдзяленьні жывёлы, таксама падсьцілку і інш. зараз-жа трэба вынесьці з хлява і закапаць.

**Вэтэрынар Дыяконенка.**

---

# Ненормальнасьці і аслажненьні родаў у жывёлы.

Роды жывёлы зьявішча натуральнае і нормальнымі яны праходзяць скора. Бываюць, аднак, выпадкі ненормальных родаў з хваравітымі вынікамі і сьмерцю жывёлы. Усё гэта бывае ад бруднага ўтрыманьня жывёлы, прастуды, дрэнных харчоў, ушыбаў, слабасьці жывёлы ад старасьці і галадухі, а гэтак-жа і ад ненормальнасьцяй радавых праходаў і неправіловага палажэньня плада.

Калі роды нормальна не праходзяць, то перш чым памагаць, трэба разабрацца, што гэтаму шкодзіць. Калі пухір лопнуў, натугі энэргічныя, а плод не паказваецца на працягу больш-менш доўгага часу і жывёла непакоіцца, то ў гэткім разе магчымы неправіловыя роды і неабходна абсьледаваць праход рукою.

Цяжар родаў і адсутнасьці натуг бываюць у жывёлы, якая родзіць у першы раз, а гэтак-жа ў старой і заморанай. Каб павялічыць натугі, трэба даць жывёле 1/2 шклянкі моцнага віна або настойкі, гэтак званых, матачных ражкоў (спарыня, што расьце на каласох жыта і пшаніцы) да 15 грам (каля 1-го лоту) кабыле і да 30 грам карове. Карысна рабіць уліваньне цёплаватай вады ў радавы праход, карыстаючыся пры гэтым клізмай; гэтак-жа не пашкодзіць і расьціраньне далонямі жывата жывёлы ў бок выхада. Здараецца, што пры моцных натугах жывёлы, плод ня можа выйсьці з прычыны сударгавага звужэньня шыйкі маткі. У такім выпадку, чыста вымытую руку змазваюць алеем, прасоўваюць у праход і паступова пашыраюць шыйку маткі, чым палягчаюць выхад пухіра.

Калі зробленым абсьледваньнем прыходзяць да выніку, што крыж жывёлы вузкі і плод ня зможа выйсьці цалкам і прыдзецца даставаць яго часткамі, то без вэтэрынара ў такім разе абысьціся нельга.

Найбольш частымі выпадкамі хваравітых родаў зьяўляюцца неправіловасьці палажэньня плада.

Нормальных палажэньняў два: галавою ўперад, пры чым галава месьціцца на выпрастаных пярэдніх ножках, і задам уперад—ножкі выпрастаны і паміж імі хвост. Нормальныя палажэньні могуць паслажняцца гэткімі зьявішчамі: а) плод ідзе галавою, а адна ці абедзьве ножкі сагнуты ў каленях пад грудзі; б) адна ці абедзьве ножкі закінуты на шыю; в) галава можа быць закінута ўверх, уніз, управа ці ўлева. Усё

гэта магчыма пазнаць толькі пры абсьледаваньні рукою, якая сустракае замест галавы шыю, ногі або грудзі. Трэба знайсьці галаву і надзець глухую пятлю (пятля, якая не зашморгваецца) вузлом пад бараду, а сярэдзінай на патыліцу; затым, павольна атапхнуўшы плод назад, асьцярожна шукаюць ножкі, пачынаючы з грудзей, пляча і да пупка. Як толькі знойдуць ногі, неабходна іх выпрастаць у каленях. Лягчэй гэта рабіць сагнуўшы перш лапатку, плячо і калена. Опэрацыю гэту трэба рабіць надта асьцярожна, каб не параніць матку.



Галава закінута ўбок.



Пярэднія ногі согнуты ў каленях пад грудзі.

Пры закінутых ножках на шыю трэба атагнуць галоўку і палажыць яе на ногі.

Пры заваротах галавы ўверх ці ўбок, дапамагаць лепш пры стаячай жывёле, затым, што плод апушчаецца ўніз, калі лягчэй рабіць і выпростваньне. Атпіхнуўшы плод назад, на галоўку надзяваюць пятлю і даюць ёй патрэбны напрамак.

Усё гаворанае належыць да аслажненьняў пры выхадзе плада перадам. Што датычыць аслажненьняў пры палажэньні плада да выхаду задам, то магчыма падгібаньне ножак пад жывот. У такім разе, атпіхнуўшы плод, разгібаюць ножкі ў суставах, пры чым капытцы трэба забіраць у руку, каб яны прыходзіліся на далонь, бо інакш магчыма параніць сьценкі маткі. Лягчэй паправіць неправіловасьці палажэньня плада сьпіною ўверх.

Апрача азначаных ненормальнасьцяй палажэньня плада сустракаецца і шмат іншых. Напрыклад, папярочна-сьпіннае, калі плод ідзе і становіцца папярок радавых праходаў і маткі, здараецца, што плод зьмяшчаецца седзючы і павернуты мордаю і нагамі да выхаду і інш. Ува ўсіх выпадках, адапхнуўшы плод назад,—патрэбна аслабаніць ножкі і галаву і прыдаць ім патрэбны напрамак, а лепш ў кожным такім разе зьвяртацца да вэтэрынара.

Як бачым, хваравітыя роды ў значным ліку залежаць ад бруднага ўтрыманьня, дрэнных харчоў і інш., а гэта знача, што—каб пазбавіцца дрэнных вынікаў, трэба сьцерагчы жывёлу ня толькі перад ацёлам, а і праз увесь час.

**Ветэрынар Дыяконенка.**

# Чаму патрэбен догляд за цялятамі?

Цялё, якое родзіцца зімою, лепш пускаць на племя. Да вясны яно падрасьце і набярэцца сталасьці, а летам можа карыстацца пашай. Але, каб атрымаць гэткіх цялят, неабходна споўніць шэраг правіл, апрацаваных больш сьвядомымі жывёлаводамі.

Заўважым, што карова целіцца лежучы, а па выхадзе плада адразу ўстае і паварачваецца да цяляці, каб аблізваць яго. У часе ўставаньня пупавіна разрываецца сама, але лепш яе адрэзаць на 2-3 вяршкі ад жывата цяляці і, выціснуўшы адтуль кроў, абмыць чыстаю пракіпячонаю вадою або разьведзенай карбоўкай (2 часткі карбоўкі на 100 частак вады). Пры адрэзваньні трэба пільна сачыць за чыстатою рук і інструмэнтаў, якімі адрэзваюць пупавіну.

Калі карова не аблізвае цяляці, то трэба яго падвесьці да каровы і калі яна ня хоча, то самому насуха выцерці. Ні ў якім разе ня можна абсыпаць цялё мукою ці сольлю. Мука, як клеям, заклейвае скуру, а соль дачыняе боль.

Цяляты надта баяцца холаду; загэтым катушок патрэбен абавязкова цёплы, бо прастудзіўшы цялё адратаваць яго амаль немагчыма.

Калі цялё на другі, трэці дзень ляжыць і ня п'е малака, а з носу цячэ сьлізь, то гэта пэўныя адзнакі прастуды і ратаваць яго надта трудна.

Паносы і запоры таксама псуюць нашых цялят. Белы панос з белавата-жоўтым калам горш за звычайны з прычыны заразьлівасьці. Лячыць ад паносу цялят даволі трудна. Хворае цялё неабходна перш за ўсё адлучыць ад другіх і не даваць малака. Замест малака даваць пойла з аўсянкі. Даць 3-4 ложкі рыцыны, а затым зраньня і ўвечар па $^{1}/_{2}$ чайнай лыжкі разьведзенага ў шклянцы вады таннаформа.

Пры звычайным запоры трэба пазбавіцца прычын хваробы—паменшыць дачу малака на палову, а другіх кармоў не даваць зусім. Даваць атвар льнянога семя і расьціраць жывот. Таксама карысны клізмы з цёплай вады і дадаткам алею.

Здараецца, што запор вынікае ў цяляці, калі яму не даць малодзіва. Першы дзень раяць цяляці даваць ад 3-5 шлянак чыстага малодзіва ў два-тры прыёмы. На другі дзень даюць 2-3 кварты.

На цялят часта нападаюць вошы, ад чаго цяляты худнеюць. У гэтым разе, акром лепшага кармленьня і догляду, ужываюць абмываньне цялят атварам тытуну і разведзеным крэалінам (на 100 частак вады $1^{1}/_{2}$ часткі крэаліну).

На трэйці дзень па нараджэньню цялят пачынаюць карміць ад вагі (першыя 3-4 нядзелі адным малаком) цёлачкам $^{1}/_{6}$-$^{1}/_{7}$ частку ад іх вагі, а бычком $^{1}/_{5}$-$^{1}/_{6}$ частку. Дачу суцэльнага малака павялічваюць да 20-24 фунтаў.

З пачатку чацьвертай нядзелі здаровым цялятам пачынаюць даваць здыманае малако. Робяць гэта такім парадкам: штодзенна збаўляюць 1-2 кварты малака суцэльнага і замяняюць такім-жа лікам здыманага і дадаюць чыстай прасеянай аўсянай мукі, або макухі. Пойла павінна быць заўсёды цёплым. З трэцяй нядзелі пачынаюць прызвычайваць цялят да сена. Сена даюць мягкае, дробнае і ўволю.

Двухмесячнае цялё пераводзяць ад здыманага малака да пойла. Спаўняецца гэта так: штодзенна 4 фунты здыманага малака замяняюць такой-жа колькасьцю вады з дадачай $^1/_3$ фунта аўсянкі. Трохмесячнаму цяляці даюць каля вядра чыстага цёплага пойла з 3-4 фунтамі аўсянкі або $2^1/_2$-3 фунты макухі, а сена колькі зьесь. Чатырохмесячнае цялё пераводзяць ад пойла да сухога корму (рэзка, мякіна змочаныя салонай вадою з дадаткамі 3-4 фунтаў концэнтраваных кармоў). Сена і вада даецца ўволю. Такі парадак кармленьня прадоўжваецца да году, калі ня будзе зьмен пры выгане цялят на пашу.

Агроном **Ластоўскі**.

---

# Ня трымайце цялят пад каровамі.

Надыходзіць пара калі і нам трэба зьвярнуць належную ўвагу на паляпшэньне сваіх кароў, як найбольш прызвычаеных да нашага клімату і спосабаў утрыманьня.

Першым крокам у гэтым кірунку будзе падбор маладняка—цялят і іх кармленьне, бо пры няўмелым кармленьні і дабрае цялё будзе дрэнным.

Нашы гаспадары ня толькі нядзелямі, а часта па 2 месяцы трымаюць цялят пад каровамі, асабліва пакінутых на гадоўлю. Нас-жа найбольш цікавяць гэтыя цялята, чаму і гутарка будзе толькі аб іх.

Лепшым кормам цяляці з першых дзён, вядома, зьяўляецца малако маткі, а найлепшым спосабам кармленьня—выпойваньне малаком. Аб гэтым сьведчыць навука і практыка сьвядомых гаспадароў.

Пры гадоўлі цялят ня трэба трымаць іх пад кароваю, а з першых дзён прызвычаіць піць малако, выдаёнае ў той-жа каровы.

Цялё ў такім разе застаецца пры карове пакуль яна яго выліжа. Далей цялё адсаджаваюць у катух і не раней, як праз тры гадзіны, даюць шклянку-паўтары малака, а за ўвесь дзень ня больш, як дзьве кварты (6 шклянак) малака. Малако трэба даваць адразу пасьля выдойваньня каровы і тры разы ў суткі. На другі дзень цяляці даюць кварт тры малака, а праз увесь далейшы час даюць корму ў залежнасьці ад вагі цяляці—цёлачкам $^1/_6$-$^1/_7$ частку, а бычку $^1/_5$-$^1/_6$ ад іх вагі; пры гэтым трэба толькі пільна сачыць за чыстатою пасуды.

Адсаджанае цялё амаль з першых дзён само прывыкае піць малако і добра сябе адчувае нават і пры пераходзе ад малака на пойла і чыстай вады. Зусім іншае бывае, калі цялё трымаецца пад каровай. Праўда, з пачатку яно мае добры выгляд, але праз нядзелю пасьля адсаджваньня, цялё з кожным днём блажае, бо дрэнна п'е і не бярэцца за харчы. Загэтым нашы цяляты і бываюць часта малыя, худыя, слабыя, а ад гэтага і каровы дрэнныя.

Наогул-жа, пры выпайваньні цялят без каровы яны заўсёды выглядаюць лепш, чым пры трыманьні іх пад каровай. Але хто на спраўе ў гэтым пераканаўся, той да старога спосабу гадоўлі цялят ўжо ня вернецца.

**Агр. Х. Хатэнка.**

# Харчаваньне сьвіньней.

Дзікія сьвіньні жывяцца рознымі травамі, карэньнем, жалудамі і г. д. Свойскія-ж сьвіньні кормяцца рознымі адкідамі гаспадаркі, бульбай, корняплодамі (буракі, морква, рэпа), малочнымі адкідамі, псутымі продуктамі, што не заўсёды спагадна і здароўю жывёлы.

Калі гаспадар жадае разводзіць здаровых сьвіньней і мець ад іх карысьць, то ён павінен знаць правіловае іх харчаваньне, а «правіловае харчаваньне складае палову пароды». У гэтым напрамку ангельскія жывёлаводы і дацкія гаспадары дасягнулі бліскучых вынікаў.

Дзеля лепшага ўзросту парасят і падсьвінкаў, яны кормюць іх трымаючыся гэтакіх правіл:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сьвіньні | жывой | вагі ў 25 | фунт. | атрым. | штодзенна | 1½ | кармовых адзінак |
| " | " | " ад 25—35 | " | " | " | 1¾ | кармовых адзінкі |
| " | " | " " 35—45 | " | " | " | 2 | " " |
| " | " | " " 45—55 | " | " | " | 2½ | " " |
| " | " | " " 55—65 | " | " | " | 3 | " " |
| " | " | " " 65—80 | " | " | " | 3½ | " " |
| " | " | " " 80—95 | " | " | " | 4 | " " |
| " | " | " " 95—115 | " | " | " | 4½ | " " |
| " | " | " " 115—140 | " | " | " | 5 | " " |
| " | " | " " 140—165 | " | " | " | 5½ | " " |
| " | " | " " 165—200 | " | " | " | 6 | кармовых адзінак. |

Кормам сьвіньням можа быць: макуха, розная мука, зярняты, мякіна, бульба, розныя травы, зялёная канюшына, люцэрна, віка, корняплоды, суцэльнае і здыманае малако, сыроватка і адкіды тэхнічнага вырабу.

Кармовая адзінка па пажыўнасьці лічыцца роўнай мешанцы, складзенай з ⅓ фунта высевак, ⅓ фунта мукі і ⅓ фунта макухі. Што тычыцца іншых кармовых сродкаў, то яны раўняюцца аднэй кармовай адзінцы ў ліку:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Макухі | ¾ фунта | Канюшына зялёная | 5 фун. |
| Зярняты розныя | 1 ф. | Корняплоды | 7 фун. |
| Высеўкі | 1 ф. | Суцэльнае малако | 3 фун. |
| Мука розная | 1 ф. | Здыманае малако | 6 фун. |
| Бульбы | 4 ф. | Сыроватка | 12 фун. |

Адзначаныя кармовыя сродкі дзелюцца на концэнтраваныя кармы і грубыя.

Да концэнтраваных кармоў належаць: макуха, розныя зярняты, мука, высеўкі. Да грубых—мякіна, трава, бульба, корняплоды і г. д.

Добра складзеная харчовая дача, ў кармовых адзінках, павінна мець вагою палову концэнтраваных і палову грубых кармоў.

Канцэнтраваныя харчы даюцца сухімі або змочанымі вадою як каша, зярнята ў расплюшчаным або параным відзе; мякіна—паранай, бульбу часьцей даюць варанай.

З мэтай скарэйшага росту і нормальнага разьвіцьця касьцей, парасятам раіцца даваць попел (залу) з кусочкамі вугалькоў, або перапаляныя косьці. Наогул, трэба мець на ўвазе, як правіла, што найлеп-

шае скарыстаньне харчоў, а адсюль будзе і найбольшая карысьць, калі харчовыя дачы будуць рознастайнымі; з гэтай прычыны надта карысным будзе скармліваньне сьвіньням адкідаў мяса, мясной мукі і сушанай крыві, як моцных і багатых харчоў. Пры гадоўлі сьвіньней на завод раіцца выганяць іх на пашу. На пашы сьвіньні карыстаюцца моцыёнам, чыстым і сьвежым паветрам, робячым уплыў на іх здароўе; пры гэтым сьвіньні жывяцца зялёнай травою, жалудамі і карэньнямі расьлін.

У працягу сутак харчы павінны давацца кожны раз у строга вызначаны тэрмін і ня менш як 3 разы у дзень, а кормным сьвіньням і парасятам ня менш 4-5 раз. Кожны раз пасьля харчаваньня карытцы павінны вычышчацца ад нязьедзянага корму і адзін раз у тыдзень іх трэба мыць гарачаю вадою.

Спаўняючы паданыя правілы, кожны гаспадар, лічучыся з харчамі сваей гаспадаркі, зможа сам скласьці патрэбную харчовую дачу і мець карысьць.

**Агр. Цімашкоў.**

---

## Гадоўля птушак.

Корм для птушкі—амаль усё: ад яго залежыць якасьць мяса і яек, і нават велічыня птушкі. Не дакарміць нельга, але і перакарміць дрэнна. На волі птушка дзёўбае розныя зярняты, жывіцца мясной ежай, мае зелень, дзяўбе пясок, каменьчыкі, вапну з сьцяны і г. д. Знача, калі мы трымаем птушку ў няволі, то мы павінны даць ёй у ежу амаль усё тое, чым яна жывіцца на волі.

На падставе вед аб складзе featuring рознага корму, ежа для птушкі складаецца: 1) з зярнят (авёс, ячмень, проса, кукуруза), з зелені (крапіва, канюшына, корняплоды, каша, бульба), 2) з мяса (адкіды сырога і зваранага мяса, сушанага мяса, мясное мукі, рыбы, чарвей), 3) з мукі (танныя гатункі, высеўкі) і 4) з ежы, якая мае ў сябе вапну (пабітыя косьці, касьцяная мука, лушпайка яек, тоўчаныя чарапашкі). Усе гэтыя кармы даюцца паасобна або ў зьмешаным выглядзе. Для дарослай птушкі ў залежнасьці ад яе вагі на 1 раз трэба даваць корму каля 1/8 фунта ўсяе мешаніны.

Спосаб кармленьня звычайна наступны: раніцаю даецца мягкі корм, які ўзімку лепш падаграваць. У склад мягкага корму ўваходзіць зелень і мука часамі з невялікім дадаткам вапеннага і мяснога харчоў.

Зелень парыцца напярэдадні, сячэцца і замешваецца высеўкамі або таннымі гатункамі мукі. Калі куры ліняюць або ўзмоцнена нясуцца, а пеўням, калі яны вяснуюцца з курамі ў гэтую мешаніну даюць мясны корм у залежнасьці ад велічыні птушкі, часьцей ад двух да чатырох раз у тыдзень.

Касьцяны ці вапенны корм даецца курам перад тым, як яны пачнуць несьціся; маладым-жа ён асабліва патрэбен, а калі няма дзе гуляць, дык патрэбен і ўсякай птушцы. Гэты корм замешваецца ў раньнішні мягкі. Вапенны корм часамі замяняюць проста дачай гашанае вапны,

якую кідаюць у птушнік, перамяшаўшы з буйным пяском. Зелень, дзе яна танная, даецца сухой у выглядзе капусты, рэпы, морквы і буракоў. Яна падчэпліваецца на дроце на нязначнай вышыні. Птушка падскоквае і здавальненьнем дзяўбе яе, а адначасна робіць і моцыён, так каштоўны ўзімку ды цесным памяшканьні.

Мягкі корм, як адзначана, даецца раніцаю. Улетку, калі птушцы ёсьць выгул, ён зьяўляецца адзіным кормам. Узімку вечарам птушцы даюць зярняты па васьмушцы на штуку. Але калі птушка сядзіць на малой прасторы, дык зярняты сыплюцца і ўдзень на тым месцы, дзе яна гуляе. Кармушкі кожны раз, асабліва пасьля мягкага корма, мыюцца. З бруднае кармушкі карміць птушку ня трэба. Піць даюць чыстую ваду, а ўзімку, калі вада замярзае, лепш ставіць сьнег.

Качкі, раз для іх няма патрэбнай воднае прасторы, кормяцца гэтак сама два разы ў дзень і тым-жа кормам. Калі-ж воднае прасторы хапае, дык—увечар і зярнятамі. Гусі—аднымі зярнятамі і ў невялікай колькасьці.

Водную птушку, каб яна ахвотна зварачвалася з вады да хаты, належыць абавязкова карміць вечарам. Зярняты даюцца ёй на вадзе, а мягкі корм крыху радзейшы, чым курам. Узімку наглядаюць, каб качкі й гусі не заставаліся на тым месцы, дзе іх кормяць, бо яны вядуць сябе вельмі брудна, мочаць наўкола кармушак падлогу, дзеля гэтага заўсёды будуць таптацца па макраце. Адгэтуль прастуда, псаваньне пер'я і пуху. Індыкаў, калі толькі іх шмат, кормяць аднолькава з курамі. Наглядаюць, каб памяшканьні, дзе яны жыруюцца, былі сухія, бо вільготныя вельмі шкодны для здароўя індыкаў, асабліва маладых. Гэтак сама, як куры, кормяцца й цасаркі, але трымаць іх трэба асобна, бо яны б'юць курэй.

Гэтак звычайна гадуюць птушку надворную. Калі-ж птушка прызначана для выкарму, дык зярнят даюць ёй менш. Выкармной птушцы можна даваць два разы мягкі корм і толькі днём пасыпаць крыху зярнят, скарочваючы іх дачу. Замест высеўкаў у мягкі корм падмешваюць больш спажыўную ячную ці аўсяную муку.

Л. Чарткоў.

---

# Шаленства.

Шаленства страшэнна заразьлівая хвароба. Ім можа заразіцца і захварэць кожная жывёла, а таксама і чалавек. Заражэньне наступае праз укус. З гэтай прычыны мы бачым, што найчасьцей хварэюць шаленствам сабакі, ваўкі, лісы і нават каты, якія звычайна кусаюцца паміж сабою, кусаюць другіх жывёл і чалавека.

## Прычыны хваробы.

Доўгі час ня ведалі з чаго вынікае шаленства. Лічылі, што сабакі шалеюць ад гарачыні, ад голаду, з нуды, ад болю і г. д. Але цяпер ужо ўсе пераканаліся, што шаленствам жывёла хварэе тады, калі яна будзе пакусана другою шалёнаю жывёлаю, найчасьцей сабакай альбо ваўком і калі сьліна шалёнай жывёлы пападзе ў ранку.

Аднак мы ведаем, што ня кожная пакусаная жывёла хварэе; заі лежыць гэта ад таго, што сьліна шалёнае жывёлы не пападае часам ў рану, а застаецца ў жывёлы на шэрсьці альбо на адзежы ў чалавека. Былі выпадкі, што людзі елі мяса і пілі малако шалёных кароў і заставаліся здаровымі. Тлумачыцца гэта тым, што ў іх роце і на губах ня было ранак, і зараза не магла папасьці. І яшчэ прыклад. На вёсцы часта высмоктваюць ротам з сьвежай раны кроў, а разам з ёю і сьліну ўкусіўшай шалёнай жывёлы. Той, хто высмоктвае, можа і не захварэць, калі ў яго ў роце і на губах ня было скрабінак. Тым фактам, што ня пры кожным укусе сьліна пападае ў ранку, а знача, што ня кожная пакусаная жывёла хварэе,—спрытна карыстаюцца розныя знахары і шаптуны, якія замазваючы вочы цёмнаму люду, выцягваюць ад яго грошы за свае шэпты.

## Адзнакі шаленства.

Спачатку пасьля ўкусу, трудна бывае сказаць, ці заразілася тая ці іншая жывёла або чалавек. Адзнакі хваробы зьяўляюцца не адразу пасьля ўкусу шалёнаю сабакаю, а перш цягнецца, так званы, патаемны пэрыод. Гэты пэрыод у адных цягнецца ня больш 10-14 дзён, а ў другіх $1^1/_2$-2-3 месяцы і нават больш, пасьля чаго ўжо зьяўляюцца адзнакі шаленства.

Адзнакі шаленства больш-менш аднолькавы ў розных жывёл. Мы апішам гэтую хваробу толькі ў сабак, якія хварэюць шалам часьцей другіх і разносяць заразу праз укусы.

Шаленства ў сабак бывае «буйнае» і «ціхае». Як тая, так і другая форма шаленства цягнецца 4-7 дзён, пасьля чаго жывёла памірае. Пры буйным шаленстве сабака парываецца ўцячы з дому і *кідаецца кусаць*, і гэтае жаданьне кусацца павялічваецца ў яго з кожнай гадзінаю, пакуль ня зьявіцца дні праз тры паляруш заду і паляруш ніжняй сківіцы, пасьля чаго сабака перастае ўжо хадзіць, ня можа кусацца, есьці і глытаць.

Вельмі важна каб гаспадар, як мага раней, пазнаў шаленства ў свайго сабакі, пакуль ён яшчэ ня ўцёк з дому і не пачаў кусацца. І гэта ня так трудна, бо з першых-жа дзён занядужаньня сабака пачынае іначай сябе трымаць: ён робіцца пужлівым, непакорным, нудзіцца, часта зьмяняе месца і хаваецца па кутках, пад ложкі, лавы і г. д. Спачатку сабака нават добра п'е ваду і есьць, толькі пазьней яму робіцца ўжо трудна глытаць, пры гэтым ён робіць такія рухі пярэднімі лапамі, нібы хоча нешта выкінуць з горла. У гэты час ён ліжа з прыемнасьцю халодныя рэчы, грызе іх, есьць салому, сена, зямлю, шчэпкі, анучы і інш. Голас у хворых пачынае мяняцца, робіцца хрыплым і непадобны да звычайнага брэху. Пазьней прыкмячаецца значнае выцяканьне сьліны з прычыны палярушу ніжняе сківіцы і немагчымасьці глытаць. Скора шалёная сабака худнее, слабее, нарэшце наступае паляруш заду і сабака гіне на 6-7 дзень з пачатку хваробы.

Другая форма шаленства—ціхае. Пры гэтай форме хваробы галоўнай адзнакай зьяўляецца раньні пяляруш ніжняй сківіцы. Злосьці і жаданьня кусацца тут няма, дзякуючы чаму гэтая форма шаленства менш небясьпечна для акружаючых. Рэшта адзнак,—нуда, хістаючыеся рухі, схуданьне і г. д.,—усё гэта назіраецца і тут, але яны звычайна не зьвяртаюць на сябе ўвагі.

## Як захаваць людзей і жывёлу ад шаленства?

Калі на двор забяжыць чужая сабака і пакусае людзей і жывёлу, альбо калі свая сабака зробіцца нуднаю, злою, будзе бегаць бяз толку з аднаго месца на другое, хавацца па кутках і кідацца на людзей і жывёлу, то гэтакую сабаку трэба ўзяць пад нагляд, зачыніўшы яе ў такое памяшканьне, адкуль яна не магла-б уцячы або навязаць яе на ланцуг. Калі ў сабакі запраўды пачалося шаленства, то дзён праз 5-6 яна абавязкова памрэ. Найлепш можна распазнаць шаленства, назіраючы сабаку ў жыцьці, дзеля чаго патрэбна затрыманьне яе і аддзяленьне. *Высьвятленьне шаленства абавязкова ў тых выпадках, калі сабака ўкусіць чалавека, якому не пазьней як праз 6 дзён пасьля ўкусу шалёнаю сабакаю (альбо нават падазронаю) абавязкова трэба зрабіць на Пастэраўскай станцыі ўколы.* Забіваць-жа адразу сабаку, якая ўкусіць чалавека, непрактычна.

Але самы правіловы, самы пэўны спосаб, з дапамогаю якога можна зрабіць так, што шаленства будзе рэдкім зьявішчам, гэта—у гарадох і вялікіх мястэчках—*не выпускаць сабак на вуліцу без намордніказ*, а па вёсках—*трымаць сабак на прывязі.* Усіх лішніх і бяздомных сабак трэба лавіць і зьніштажаць. Шаленства вельмі рэдка зьяўляецца там, дзе няма бяздомных сабак, як напрыклад, у Нямеччыне і Англіі. У гарадох цяпер уведзены падатак на сабак, ад якога звальняюцца толькі сабакі, якія сядзяць на ланцугох. Заўважана, што пасьля ўвядзеньня падатку на сабак, колькасьць бадзяючыхся сабак адразу зьменшылася. Нарэшцэ трэба адзначыць, што законам загадана ўсіх шалёных *сабак і катоў зьніштажаць.*

## Што рабіць з чалавекам укушаным шалёнаю сабакаю альбо іншаю жывёлаю?

Як толькі здарыцца такі выпадак, патрэбна па магчымасьці высьветліць, якая жывёліна ўкусіла, а рану трэба зараз-жа прыпячы распаленым жалезам, ёдам, карбоўкай, воцтам. Праканаўшыся, што жывёла была шалёная альбо калі яна, ўкусіўшы ўцячэ, неабходна зьвярнуцца на Пастэраўскую станцыю, каб зрабілі ўколы. Цяпер амаль-што ў кожным вялікім горадзе, як Менск, Магілёў, Віцебск адчынены гэткія станцыі.

Дзякуючы такім уколам усе людзі, пакусаныя шалёнымі жывёламі застаюцца здаровымі. Ня вылечваюцца толькі тыя, каму зроблены ўколы пазьней, як праз 6 дзён пасьля ўкусу і тыя, у каго былі вельмі глыбокія ўкусы ў твар. Калі-ж хвароба ўжо пачалася, то ніякія лекі не памагаюць.

Вось што трэба ведаць кожнаму чалавеку аб шаленстве, па 1-е, дзеля таго, каб самому ўмець апазнаць шалёную жывёлу, а па 2-е, дзеля таго, каб у разе ўкуса не зьвяртацца да знахароў і шаптуноў, а, ня трацячы часу, шукаць дапамогі на Пастэраўскай станцыі і па 3-е, каб абараніць сябе і сваю скаціну—неабходна трымаць на прывязі сваіх сабак, асабліва, калі паблізку аб'явіцца шалёная жывёла.

Вэтэрынар **І. Н. Серада.**

# Вэтэрынарыя ў пытаньнях і адказах.

Пытаньне: Якія задачы стаяць перад вэтэрынарыяй?

Адказ: Задачамі вэтэрынарыі зьяўляецца вэтэрынарна-лекарская дапамога жывёле, барацьба з пошасьцямі скаціны, вэтэрынарна-санітарны нагляд за пераганяемай і перавазімай жывёлай і сыр'ём, нагляд за мяснымі продуктамі на рынку.

Пытаньне: Чаму вэтэрынарыя мае значэньне ў сельскай гаспадарцы?

Адказ: Яна абараняе адну з галоўных галін сельскай гаспадаркі —жывёлаводзтва, якое зьяўляецца крыніцай дабрабыту селяніна.

Пытаньне: Сколькі траціць Беларуская Рэспубліка штогод ад пошасных хвароб?

Адказ: Па скромнаму падліку Беларуская Рэспубліка траціць штогод ад пошасьці жывёлы тры мільёны рублёў.

Пытаньне: Чаму вэтэрынарыя зьберагае здароўе людзей?

Адказ: А тым, што пошасьці і хваробы жывёлы часта перадаюцца і чалавеку, напрыклад, сап, шаленства, сібірка, сухоты.

Пытаньне: Ці можа вэтэрынарыя падняць цану нашай жывёлы і мяса на замежных рынках?

Адказ: Вэтэрынарная справа мае значны ўплыў на вываз нашага сыр'я ў замежныя краіны. Тыя краіны цікавяцца нашым сыр'ём, але забараняюць вывазіць і купляць яго з мясцовасьцяй небясьпечных ад пошасьцяй.

Пытаньне: Хто праводзіць вэтэрынарную працу на мясцох?

Адказ: Аснаўною ячэйкай зьяўляецца вэтэрынарны пункт. Яго заданьні: вэтэрынарная дапамога сельска-гаспадарчай жывёле, барацьба з пошасьцямі і вэтэрынарна-санітарны нагляд за сваім раёнам.

Пытаньне: Хто перашкаджае працы вэтэрынарных пунктаў?

Адказ: Агульная несьвядомасьць і часта цемра нашай вёскі, чым карыстаюцца розныя знахары, шаптуны і канавалы і сваімі лекамі наносяць сельскай гаспадарцы значны ўрон.

Пытаньне: У чым яшчэ бяда?

Адказ: У недахваце на абшарах Беларусі вэтэрынараў.

Пытаньне: Як пазбавіцца ад пералічаных бед?

Адказ: Шырока прапагандаваць сярод сялянскіх мас значэньне вэтэрынарна-санітарных мерапрыемстваў. Уцягнуць больш сьвядомае сялянства ў справу вэтэрынарнага будаўніцтва. Вясьці барацьбу з усімі прайдохамі, якія ня лечаць, а псуюць жывёлу, як канавалы, знахары, шаптуны.

Пытаньне: Як Беларуская Рэспубліка можа забясьпечыць сябе вэтэрынарамі?

Адказ: У гэты час на абшарах Беларусі ўсяго 44 вэтэрынарных пункты. Кожнаму вэтэрынару прыпадае абслугоўваць аграмадны раён з лікам жывёлы больш 100 тысяч галоў. Для поўнай забясьпекі жывёлы вэтэрынарнай дапамогай патрэбна мець вэтэрынараў раз у дзесяць больш, чым цяпер, г. з. каля 400 чалавек. Мы зможам іх атрымаць з Беларускага Дзяржаўнага Вэтэрынарнага Інстытуту ў г. Віцебску.

Пытаньне: Што яшчэ неабходна для пасьпяховага разьвіцьця вэтэрынарыі?

Адказ: Прыблізіць вэтэрынарныя пункты да сялянства раёна, устанавіць з сялянствам самую цесную сувязь і самаму сялянству прымаць удзел у справе вэтэрынарнага будаўніцтва.

Пытаньне: Як сялянства можа прымаць удзел у вэтэрынарнай працы?

Адказ: Трэба з'арганізаваць на мясцох сялянскія гурткі дапамогі справе вэтэрынарыі і сялянскаму вэтэрынарнаму працаўніку у яго штодзеннай і адпаведнай працы.

*(Працяг будзе).*

М. Іоффэ.

---

## Гутарка па пчалярству.

Пчалярства з даўніх часоў было цікавым заняткам усіх людзей, якія перахадзілі ад качоўя да аселасьці і занятку земляробствам.

Чаму-ж пчалярства так любілі і любяць усе людзі?

А таму, што пчалярства патрабуе ня так многа працы, а дае чалавеку каштоўныя продукты: мёд, воск і пчаліны клей. Воск ужываецца ў тэхнічнай прамысловасьці, а таксама і мэдыцына карыстаецца ім.

Мёд зьяўляецца найлепшым спажыўчым продуктам, акром людзей хворых цукровай хваробай.

Трэба заўважыць, што людзям старым і калекам, пчалярства можа даць найлепшыя сродкі да жыцьця. А калі дадаць, што наша цукровая прамысловасьць за часы вайны і рэволюцыі падупала, а з гэтай прычыны не заўсёды можа даць патрэбны лік цукру, то й тут мёд зьяўляецца добрай дапамогай. Ім можна замяніць цукар. Адсюль вынікае, што пчалярства ў нас павінна меЦь шырокае разьвіцьцё.

Якія-ж мажлівасьці на Беларусі дзеля занятку пчалярствам?

Нашы мажлівасьці надта вялікія. На абшарах Беларусі многа лясоў, сенажацяй палёў і пчала на кожным з іх знаходзіць сабе пажыву і зьбірае мёд. Каму не вядомы кветкі белай канюшыны (дзятліны), валошкі, сьвірэпкі, крапівы, дзікай гарчыцы, ксяндзоў плеш, іван-чай, грэчка, крушына, каліна, ліпа, вярба і г. д. Усе гэта найлепшы мёдазбор для пчол.

Таксама сады і гароды. Наогул можна сказаць—няма такое расьліны, дзе-б не пажывілася пчала, а адсюль мы бачым, што ўсе магчымасьці шырокага разьвіцьця пчалярству на Беларусі ёсьць.

А калі возьмём пад увагу, што з аднаго вульля можна мець каля пяцёх пудоў мёду, а выпадкова і да 9-ці, то зразумела будзе і карысьць ад такога занятку. Пчалярства можна ставіць побач з земляробствам.

Дзеля таго, каб мець большы прыбытак, трэба мець належныя пчалярскія прылады і ўмець даглядаць пчол.

Будзем спадзявацца, што гэтыя веды мы атрымаем і з гэтай цікавай, але заняпаўшай галіны сельскай гаспадаркі, атрымаем усё тое, што можа даць беларуская прырода.

Аб тым, як даглядаць пчол, пагутарым у другі раз.

**Фэдарака.**

# Што дае чалавеку пчала.

Пчала дае чалавеку два каштоўных продукты—мёд і воск.

Мёд прадстаўляе сабою той самы цукар, толькі лепшага гатунку, чаму многія і лічуць мёд ласаваньнем. Такі погляд на мёд няправіловы. Навука сьведчыць, што дзеля нормальнага кармленьня, росту і разьвіцьця чалавека, цукар таксама зьяўляецца неабходнай часткай яды, як і тлустасьць, крухмал, бялок і інш. Організм атрымоўвае іх у вобразе сала, малака, масла, хлеба, розных зернавых продуктаў і гародніны. Без ужываньня гэтых аснаўных продуктаў у тым ліку і цукру—мёду, чалавек разьвіваецца дрэнна, робіцца слабы, чахлы і падлеглы розным хваробам. Давайце вашаму дзіцяці штодзенна па аднэй лыжцы мёду і ён будзе ўдвойчы здаравей ад тых, хто ніколі мёду і цукру ня есьць.

Усе знаюць, што пры лячэньні многіх хвароб, ужываюцца розныя травы, існуюць, гэтак званыя, лекавыя расьліны. Хто ня знае навару ліпавага цьвету, румянкі, маліны? Лекарствы робяцца з цьвятоў, ягад, лісьцяў і карэньняў расьлін. А мёд, сабраны з гэтых расьлін, уладае далёка лепшымі лекарскімі якасьцямі, чымся лісьце і карэньні.

Значэньне мёду, як пажыўчага і лекарскага продукту аграмаднае.

Другі каштоўны продукт, які пчала дае чалавеку—воск. Яго ўжываюць на розныя тэхнічныя патрэбны, сьвечкі. Каштоўнасьць воску разоў у 2-3 большая, чым мёду. Мёдам і воскам пчолы прыносяць чалавеку вялікую карысьць. Акром гэтага, пчолы многа працуюць на карысьць чалавеку і ў другім напрамку.

Справа ў тым, што кожная расьліна, будзь-та дрэва, куст ці травінка-былінка множыцца такім-жа парадкам, як і жывёла. У расьлін неабходна запладненьне цьвятоў. А для запладненьня неабходна, каб пылок мужчынскі папаў на слупок жаночай кветкі; толькі ў такім разе зьяўляецца зародак новай расьліны. Пылок можна ўбачыць на кветках: ён бывае розных каляроў; і сьпелы пыліць, як мука. Справу перанясеньня пылка з адной кветкі на другую—інакш, запладненьне расьлін робіць пчала. Пералятаючы з кветкі на кветку, за адзін дзень яна пабывае на сотні, тысячы кветак і пераносіць з сабою пылок мужчынскай кветкі на жаночую. Пылок кветак добра бярэцца за пушыстае цела пчалы. Заўважым і тое, што пчала ніколі не зьбірае нектар (сок) і пылок адначасова з розных расьлін, а трымаецца аднолькавых. Тут ёсьць азначаны парадак—ліпа дык ліпа, грэчка дык грэчка і г. д. Бяз гэтага немагчыма было-б запладненьне, бо пылок ліпы ня можа запладніць грэчку і наадварот. Запладненьню расьлін дапамагае і вецер, але гэта ня пэўна, бо ён нясе часамі пылок і ня туды, куды трэба, і толькі выпадкова робіць запладненьне расьлін. Усё гэта гаворыць за тое, што пчала надта карысна чалавеку акром мёду і воску.

Не здарма пчалу завуць карыснай кузуркай.

Але разгледзім яшчэ адно. З раней сказанага вядома, што кожная кветка трымае ў сабе салодкі і пахучы сок, які пчолы зьбіраюць і перарабляюць у мёд. Цяпер спытаем сябе: сколькі пудоў мёду зьбяруць пчолы з усіх расьлін на плошчы зямлі ў 3 вярсты наўкола, калі пчол будзе столькі, што яны змогуць сабраць сок з усіх кветак і расьлін? Напэўна многа, можа дзесяткі ці сотні пудоў.

А колькі-ж будзе мёду з плошчы зямлі, якую займае жыхарства сельрады, раёну, акругі і цэлай Беларусі, калі наўкола сады, сенажаці і пасевы грэчкі? Тут мо‘ нельга і падлічыць.

З гэтага прыкладу мы бачым багацьце і шчодрасьць прыроды, а між іншым чалавек гэтак часта скардзіцца на яе беднату. Няўжо-ж ён ня бачыць і без разуменьня топча нагамі тое багацьце прыроды, аб якім кажуць: „Нахіліся і падымі“!

Няўжо-ж ня варта нам над гэтым моцна задумацца, і паварушыць мазгамі? Трэба навучыцца браць ад прыроды ўсё магчымае.

**Я. Струкоўскі.**

# Раённыя сельска-гаспадарчыя Рады.

Вядома, якое значэньне мае сельская гаспадарка на Беларусі: гэта фундамант усей гаспадаркі Рэспублікі. Беларусь—край дробных гаспадарак.

На абшары Беларусі ёсьць каля 656 тысяч асобных гаспадарак і з гэтага ліку каля 590 тысяч гаспадарак, дзе ёсьць ад 1/2 да 1 1/2 дзес. зямлі на душу.

За часы вайны сялянская гаспадарка Беларусі мае вялікія страты: паменшыўся лік жывёлы, зьнізіліся ўраджаі, з‘араліся плугі. Бедны і глебы Беларусі: ня родзяць бяз гною пяскі ды падзолы, а гною не стае. Пакуль-што мала прыбытку дае селяніну і поле, і скаціна. Як павялічыць прыбытак гаспадаркі і ў хуткім часе—вось аб чым трэба думаць.

Многія сяляне ўжо шукаюць пуцявін да паляпшэньня гаспадаркі: мяняюць трохполку на шматпольле, а цераспалосіцу на прысёлкі, пачыняюць сеяць канюшыну, лубін і інш.

Агрономы, каморнікі і іншыя працаўнікі вёскі павінны памагаць селяніну ў справе паляпшэньня гаспадаркі. Але на жаль такіх працаўнікоў на вёсцы мала, 1-2 на раён з некалькімі тысячамі сялянскіх гаспадарак.

Загэтым сялянства так рэдка бачыць каля сябе агронома, каморніка, вэтэрынара, загэтым сялянства часта ня мае ад іх патрэбнай дапамогі.

Трэба каб само сялянства ўнікла ў працу зямельных працаўнікоў свайго раёну. Патрэбна сувязь паміж культурнымі працаўнікамі вёскі і сялянствам больш моцная, чым яна ёсьць цяпер.

Трэба каб самі сяляне паказвалі, дзе і што трэба рабіць у першую чаргу.

Вось дзеля гэтага і прапануецца ўтварыць па Беларусі пры Райвыканкомах сельска-гаспадарчыя Рады.

Комісарыятам Земляробства зроблены вытлумачэньні аб складзе такіх Рад і дан кірунак працы.

У склад такіх Рад, акром раённых спэцыялістых (агронома, каморніка, вэтэрынара, мэліоратара), павінны ўвайсьці абраныя прадстаўнікі сялянства, мясцовага Выканкома, партыйных і комсамольскіх

ячэек, комітэтаў узаемадапамогі, сельска-гаспадарчай коопэрацыі, саўхозаў, дасьледчых палёў, сельска-гаспадарчых школ, гурткоў і наогул усе тыя, хто можа быць каштоўным у працы Рады.

Раённыя сел.-гасп. Рады вызначаецца ззываць ня менш двух раз у год, прыкладам, вясною—парад палявою працай, і ў восень,—скончыўшы палявую працу. На сваіх паседжаньнях Рады павінны разглядзець прыблізна такія пытаньні:

1. Плян працы зямельных працаўнікоў (па агрономіі і землябудаўніцтву, мэліорацыі, сельска-гаспадарчай коопэрацыі і інш.

2. Аб усіх споўненых работах і накіраваных да паляпшэньня сельскай гаспадаркі.

3. Пытаньні па розных сельска-гаспадарчых кампанях і іншыя мерапрыемствы раёну.

4. Усе іншыя пытаньні, вырашэньне якіх будзе спрыяць усей зямельнай працы, якая праводзіцца ў раёне, з усімі неабходнымі і неадкладнымі патрабаваньнямі мясцовай сельскай гаспадаркі.

Прадстаўнікі жыхарства і мясцовых устаноў лічуцца сябрамі сел.-гасп. Рад на працягу аднаго году і павінны дапамагаць зямельным працаўніком на вёсцы ў выпаўненьні ўсіх мерапрыемстваў, пастаноў і загадаў сел.-гасп. Рад.

Праз сваіх прадстаўнікоў сяляне будуць ведаць, што зроблена ў раёне па паляпшэньню сельскай гаспадаркі. Убачаць хто і як працуе, што перашкаджала іх працы і г. д.

Праз сел.-гасп. Рады сяляне могуць і павінны паказаць, якія мерапрыемствы патрэбны вёсцы і якім парадкам іх зьдзейсьніць.

Наўкола сел.-гасп. Рад павінен аб'яднацца і сялянскі вопыт, і веды, і моц усіх сялянскіх працаўнікоў, закліканых дапамагаць сялянству ў яго барацьбе за новую, лепшую гаспадарку і новае жыцьцё. Вось чаму сельска-гаспадарчыя Рады павінны быць каштоўны сялянству.

Сельска-гаспадарчыя Рады справа новая і на першых кроках магчымы ў працы памылкі.

Трэба высунуць у сел.-гасп. Рады найбольш сьвядомых, і цікавячыхся людзей.

У першую чаргу сел.-гасп. Рады будуць створаны ў раёнах, дзе ёсьць раённыя агрономы.

**Агроном Міхайлаў.**





# Сучаснае становішча с.-г. крэдыту на Беларусі.

Сетка установ с.-г. крэдыту на Беларусі зараз мае такі выгляд: у Менску—Белсельбанк, у Віцебску і Воршы—акруговыя т-вы с.-г. крэдыту, у Магілёве—Аддзяленьне Белсельбанку і па вёсках—115 крэдытных т-ваў, раскіданных па усей БССР роўнаважна з наліччам 1-2 т-ваў у кожным раёне. На 1 т-ва у сярэднім прыходзіцца 5755 гаспадарак і 28.332 дзесяціны пахаці.

У канцы мінулага опэрацыйнага 1923—24 г. ўся сыстэма с.-г. крэдыту ў БССР мела ў сваім распараджэньні: сваіх сродкаў 761 т. руб. (Белсельбанк—349 тыс. руб., Акрсельбанкі—212 тыс. руб. і нізавая сетка каля 200 тыс. руб.), запазычанных 716 тыс. руб. плюс 120 тыс. руб. спэцыяльных фондаў, створанных пры дапамозе НКЗему, як напр. семсуда і інш.

Такім чынам, усяго на справу с.-г. крэдытаваньня па Беларусі ў мінулым годзе было накірована 1697 тыс. руб., а пэўней 1497 тыс. р., бо 200 тыс. руб. сродкаў першастковай коопэрацыі не заўсёды йшлі на справу крэдытаваньня.

Калі цяпер глянуць, які цалёвы кірунак меў с.-г. крэдыт, ці на што пашлі гэтыя грошы, то на падставае сводкі адчотаў з месц можна бачыць, што пазычкі пашлі:

| | |
|---|---|
| На куплю коняй | 32,4% |
| „ кароў | 8,3% |
| „ насеньня | 16,4% |
| На с.-г. інвэнтар | 10,9% |
| На розныя іншыя патрэбы | 22,3% |

Сярэдні разьмер пазычкі састаўляе 41 руб.

За пазычаныя грошы сялянствам за мінуаы год (за выняткам Віцебскай і Полацкай акругі, якія вестак яшчэ ня далі) набыта:

| | |
|---|---|
| Коняй | 2784 шт. |
| Кароў | 1153 „ |
| Свіней | 96 „ |
| Плугоў | 1078 „ |
| Сячкарняў | 117 „ |
| Малатарняў | 99 „ |
| Веялак | 55 „ |
| Спружыновак | 180 „ |

| | |
|---|---|
| Рознага іншага інвэнтара . . . | 218 шт. |
| Збудована хат . . . . . | 510 „ |
| „ дваровых будынкаў . . | 384 „ |
| Засеяна пад кармовыя травы . . | 2150 дзес. |
| „ „ лубін . . . . | 331 „ |
| „ „ яровыя культуры . . | 3430 „ |
| „ „ зімавыя . . . . | 1063 „ |

Сярод пазычаючых было:

Па забясьпечаннасьці жывёлай:

| | |
|---|---|
| Бяз коняй . . . . | 33,1% |
| Маючых 1 каня . . . | 54,4 „ |
| „ 2 „ . . . . | 12,5 „ |
| Бескароўных . . . | 12,5 „ |

Па забясьпечаннасьці зямлёй:

| | |
|---|---|
| Карыстаючыхся 1 дзєс. зямлі . | 7% |
| „ ад 1 да 3 дз. . | 28 „ |
| „ „ 3 „ 6 дз. . | 39,7 „ |
| „ „ 6 „ 10 дз. . | 18,3 „ |
| „ „ 10 „ 15 дз. . | 5,4 „ |
| звыш 15 дзес. . | 1,6 „ |

Гэта выразна гаворыць за тое, што ўсе грошы па с.-г. крэдыту пашлі на дапамогу маламожнай і серадняцкай сельскай гаспадарцы.

Рост сродкаў па с.-г. крэдыту і разьмеркаваньне іх на ўсей тэрыторыі Беларусі да жніўня м-ца ішло малымы крокамі і толькі з часу адчыненьня працы Цэнтрасельбанку гэты прыток сродкаў значна павялічыўся.

Да ўзбуйненьня БССР (па данным на 1 красавіка м. г.) с.-г. крэдыту прыходзілася і сярэднім па Меншчыне 32 к. на 1 гаспадарку— 6 к. на 1 дзес. пахаці, па Віцебшчыне 37 к. на 1 гаспадарку і 8 к. на 1 дзесяціну пахаці, на Гомельшчыне 27 к. на 1 гаспадарку і 5 к. на 1 дзес., а на 1 кастрычніка м. г. прыходзілась ужо ў сярэднім па ўсей БССР на 1 гаспадарку 2 р. 26 к. і на 1 дзес. пахаці—46 кап.

Гэта сьведчыць за тое, што йдзе значны прыток дзяржаўных сродкаў у сялянскую гаспадарку. Рост гэтых рэсурсаў у працягу бягучага году мае дасягнуць больш 4 міл. руб., што ўжо дасьць у сярэднім больш 6 руб. на гаспадарку.

Але трэба заўважыць, што да гэтага часу ў сыстэму с.-г. крэдыту вельмі мала ўцягнута мясцовых сродкаў—сродкаў самога сялянства і нашых грамадзянскіх організацый. Так, па адчотным данным нізавой крэдытнай сеткі па БССР, за выняткам Віцебскай і Полацкай акругі, на 1 кастрычніка м. г. налічвалася ўкладаў усяго каля 32 тыс. руб.

Між тым укладныя опэрацыі па крэдытнай коопэрацыі ў былом прадстаўлялі аснову сыстэмы с.-г. крэдыту (толькі па Беларусі ў 1914 г. было ўкладаў на 12 міл. руб.) і ў сучасны час без прыцягненьня гэтых рэсурсаў у сыстэму с.-г. крэдыту нельга будзе паставіць на моцны шлях справу разьвіцьця с.-г. крэдыту, а з ім і сялянскай гаспадаркі.

Такі вынік вымагае зьвярнуць асаблівую ўвагу на пашырэньне прытоку ўкладаў. А гэта мажліва толькі тады, калі нізавая крэдытная

коопэрацыйная сетка будзе стаяць на правіловым шляху, калі вакол яе створыцца грамадзянская думка, як аб сталай карыснай установе.

Зрабіць такой нашу нізавую с.-г. крэдытную ячэйку—аснову адраджэньня і разьвіцьця сельскай гаспадаркі—ёсьць абавязак ня толькі адных коопэрацыйных працаўнікоў, але і ўсіх паступовых сялян, савецкіх, партыйных і грамадзянскіх устаноў, а ў першую чаргу земорганаў і агрономаў.

У гэтым кароткім нарысу паказаны беглы агляд на тае, як ідзе разьмяркаваньне с.-г. крэдыту.

Гэта толькі першыя спробныя крокі прасоўваньня с.-г. крэдыту ў сялянскую гаспадарку.

Мінулы год быў годам вучобы сыстэмы с.-г. крэдыту.

Ранейшыя шляхі дробнага с.-г. крэдыту, са стаўкай на заможнага гаспадара, трэба было пераглядзець і накіраваць ужо с.-г. крэдыт на дапамогу маламожнай гаспадаркі і накіраваць такім чынам, каб с.-г. крэдыт зрабіўся ўздымам вытворчасьці сельскай гаспадаркі наогул.

У чарговых нумарох я высьветлю дальейшы шлях сыстэмы с.-г. крэдыту і яе штодзенную працу ў розных галінах.

Думкі з месц, дапамогуць устанавіць больш карысны для нашае сельскае гаспадаркі шлях сыстэмы с.-г. крэдыту.

**Е. Трахімаў.**

---

# Сувязь сялянскай гаспадаркі з рынкам.

Паглядзім перш, куды разыходзіцца валавы (агульны) прыбытак сялянскай гаспадаркі, які складаецца з усяго ўраджаю палёў і сенажацяй, гадоўлі скаціны, заробку ў прамысловасьці і г. д.

Мы бачым, што прыблізна 45 процантаў валавога прыбытку йдзе на розныя патрабаваньні самой гаспадаркі, як корм скаціне, высеў і г. д., 45 проц. ідзе на харчы сям'і гаспадара і 10-12 проц. селянін прадае, каб было чым заплаціць падаткі і каб было за што паправіць плуг, калёсы, купіць жонцы ці дачцэ хустку і г. д.

Сярэдняя гаспадарка Беларусі за год прадае прыблізна рублёў на 50, пры чым палова, а мо' і большая частка грошай ад усяго продажы йдзе на выплат падаткаў і толькі меншая частка на патрэбы гаспадаркі і сям'і гаспадара. Прадажа на 50 рублёў, даволі значная сувязь селяніна з рынкам.

Але часта гэту сувязь з рынкам селянін адчувае дужа дрэнна. Напрыклад, у восень 1923 году жыта ў некаторых мясцовасьцях каштавала каля 40 кап. за пуд. У восень мінулага году жыта падаражэла, але зьніжэла цана на скаціну. Былі выпадкі, калі ў далёкіх ад гораду мясцовясьцях авечка каштавала каля рубля, а курыца менш 10 кап.

З гэтага можна зрабіць неправіловы вынік, што селяніну лепш за ўсё сваю гаспадарку будаваць так, каб менш прыходзілася прадаваць і купляць, а ўсё патрэбнае здабываць у сваёй гаспадарцы. У гэтым напрамку і перабудоўвалася наша вясковая гаспадарка ў часы рэвалюцыі і продразьвёрсткі. Пэўна ўсё памятаюць, як тады ў сялян

быў недахват солі і газы, не кажучы нічога аб паркалю. Зразумела, што накіроўваць гаспадарку ў бок 18-19 году няма ніякага сэнсу.

Паўстае запытаньне, чым-жа можна палепшыць сувязь сялянскай гаспадаркі з рынкам, і як пабудаваць супраўдную сувязь гораду з вёскай. Гэта значнае пытаньне, аб якім увесь час казаў Ленін, а цяпер пішуць амаль у кожнай газэце. Мы ня будзем казаць, на колькі паляпшэньне гэтай сувязі ў значнай меры залежыць ад агульнага становішча ўсей народнай гаспадаркі Саюзу, а скажам толькі, як сам селянін можа палепшыць сваю сувязь з рынкам.

Першае—патрэбна сеяць тыя расьліны і гадаваць такую жывёлу, якія знаходзяць збыт па-замежамі нашага Саюзу, як Англія, Нямеччына і другія багатыя краіны, бо чым багацей людзі, тым больш чаго яны купляюць і даражэй плацяць. Такімі рэчамі ў нас зьяўляюцца лён, пянька, сьвініна, яйкі. Усё гэта і да вайны ў значным ліку вывозілася з Беларусі.

Другое—трэба самы спосаб прадажы гэтых продуктаў з'арганізаваць так, каб увесь прыбытак заставаўся селяніну, а не купцу-спэкулянту, а для гэтага неабходна з'арганізаваць коопэрацыю па збыту прадуктаў.

Аб тым, як гэта зрабіць, пагутарым у другі раз.

С. Ж.

---

## Каму патрэбна зямельная рэгістрацыя.

Перш у самых кароткіх рысах азначым, што знача „зямельная рэгістрацыя".

Профэсар Маскоўскага Каморніцкага Інстытуту, які зьяўляецца лепшым знаўцам гэтай справы, адказвае на гэта пытаньне так:

„Пад зямельнай рэгістрацыяй у шырокім тлумачэньні гэтага слова, разумеецца скупнасьць мер, накіраваных да зьбіраньня, аб'яднаньня і захаваньня вед аб гаспадарчым і прававым стане асобных зямельнагаспадарчых адзінак і падтрыманьне гэтых вед на ўзроўні сучаснасьці".

Мы разумеем гэта вось як: зямельная рэгістрацыя складваецца з дзьвёх частак—першая гэта зьбіраньне і захаваньне вед аб гаспадарчым становішчы паасобных гаспадарак, аб іх забясьпечаньні інвэнтаром, будынкамі, і наогул аб тым, сколькі кожная паасобная гаспадарка ў сучасных умовах можа даць гаспадару прыбытку і сколькі гаспадар зможа заплаціць дзяржаве падаткаў. Гэту частку зямельнай рэгістрацыі называюць кадастрам.

Другая частка—гэта зямельная рэгістрацыя ў літаральным значэньні гэтага тэрміну. Сюды ўваходзіць выяўленьне плошчы зямель, якія належаць да паасобнай гаспадаркі з падзелам іх на пахаць, сенажаці і г. д., а гэтак-жа выяўленьне правоў землякарыстаньніка на зямлю і зацьверджаньне гэтых правоў Інакш кажучы—гэта афармленьне праў землякарыстаньніка ў мэтах абароны яго ад нечаканых замахаў суседзяў.

У бліжэйшыя пяць гадоў Народны Комісарыят Земляробства намеціў плян правядзеньня па ўсім абшары БССР зямельнай рэгістрацыі толькі ў частцы правоў землекарыстаньнікаў на зямлю.

Бязумоўна, у самым ходзе зямельнай рэгістрацыі будуць зьбірацца і тыя веды, якія ў будучыне зьяўлюцца вялікай апорай ў правядзеньні кадастру.

Цяпер адкажам на пытаньне, каму-ж патрэбна зямельная рэгістрацыя? Патрэбна яна перш за ўсе нашаму сялянству. Апошняе павінна ёю цікавіцца і дапамагаць зямельным установам правесьці яе, як найхутчэй, і вось па якім мотывам:

1. Аднэю з галоўных мэт зямельнай рэгістрацыі, зьяўляецца афармленьне існуючага землякарыстаньня дзеля абароны праў на зямлю кожнага асобнага землекарыстаньніка, каб апошні мог спакойна працаваць на сваім кавалку не баючыся кожны дзень, што ў яго гэты кавалак могуць адабраць па тэй ці іншай прычыне, а яму даць у другім месцы. Сучаснае становішча землякарыстаньня на вёсках, якое склалася ў выніку вайны і рэволюцыі, гаворыць нам за тое, што правіловае вядзеньне сельскай гаспадаркі часта зьяўляецца немагчымым. Адсутнасьць дакумэнтаў на зямлю, адсутнасьць сталых меж паміж рознымі кавалкамі, спрэчнасьць у многіх выпадках праў на зямлю,— усё гэта робіць тое, што нашы зямельныя комісіі літаральна завалены спрэчнымі справамі. Справы гэтыя цягнуцца доўгі час, у працягу якога на спрэчных кавалках зямлі напэўна не вядзецца правіловая гаспадарка. Зямля, аб якой ідуць спрэчкі, ляжыць .аблогам, а калі й апрацоўваецца, то гэтак, што да канца спрэчак яна становіцца нікуды няголнай.

2. Усім сялянам вельмі вядома, як многа бывае спрэчак, а часта і вялікіх непаразуменьняў, калі пачынаецца пытаньне аб устанаўленьні дзеля тэй ці іншай гаспадаркі плошчы, аблагаемай падаткам. Як ужо гаварылася, зямельныя адносіны заблутаны, сяляне ў большасьці і самі ня ведаюць сколькі ў іх зямлі і колькі яны павінны заплаўды плаціць падаткаў.

Часта прадстаўнікі ўлады вызначаюць падатак з тых ці іншых кавалкаў, як кажуць, „на вока“, бо няма дакумэнтаў, якія-б сьведчылі аб колькасьці зямлі. У гэтым пытаньні сяляне таксама зацікаўлены, а яго вырашыць можна толькі шляхам зямельнай рэгістрацыі.

Вот два галоўных мотывы, чаму сялянству патрэбна прылажыць ўсе крокі дзеля таго, каб дапамагчы зямельным установам правесьці рэгістрацыю ў працягу пяцёх гадоў.

У выніку правядзеньня зямельнай рэгістрацыі, сяляне атрымаюць дакумэнты на зямлю, у якіх будзе адзначана, як плошча іх землякарыстаньня па асобным ужыткам, гэтак і сталыя межы кожнага кавалку. Гэтыя дакумэнты для селяніна зьяўлюцца гарантыяй з аднаго боку ў тым, што ні яго сусед, ні хто другі, без дазволу закону не зачэпіць яго праў на зямлю, а з другога боку раз і на заўсёды будзе вырашана пытаньне аб лічбе яго абавязкаў (падатку) перад дзяржавай.

Аб тым, як будзе правадзіцца зямельная рэгістрацыя скажам далей

П. К.

# Некалькі слоў аб вогнетрывалым будаўніцтве.

У часы царызму надта часта бывала, што ўтварыліся тыя ці іншыя пытаньні дзяржаўнага значэньня, але гэтыя пытаньні, як лёгка ўтвараліся, так лёгка й памiралі, чакаючы пакуль той ці іншы дзяржаўны «мудрэц» знойдзе патрэбным іх уваскросіць. Вось гэтак рабілася і *са справай* вогнетрывалага будаўніцтва. Калі разгледзіць гісторыю вогнетрывалага будаўніцтва, патрэбна адзначыць, што яшчэ ў часы цара Пятра Вялікага, згодна слоў Кастамарава, быў выдадзены загад, згодна якога ў Маскве забаранялася будаваць дзераўляныя будынкі, а дазвалялася толькі каменныя ці глінанабіўныя—мазанкі. Аднак, гэты загад скора забыліся і толькі пры цару Паўлу І зноў быў адноўлены. Для лепшага ажыцьцяўленьня памянёнага загаду была ўтворана спэцыяльная школа пад загадам Львова, але гэтую справу і школу спаткаў такі самы лёс, як і папярэдні загад—бяз ніякіх пажаданых вынікаў. І вось, у саракавых гадох XIX стагодзьдзя справа аб вогнетрывалым будаўніцтву зноў падымаецца і нават было выдадзена некалькі кніжак-падручнікаў і інструкцый, як будаваць глінабіўныя будынкі. Для большага заахвочаньня і распаўсюджваньня сярод сялянства, Міністэрства Дзяржаўнай Маемасьці пабудавала ў сваіх маёнтках некалькі глінанабіўных будынін. Апрача ўрадавых устаноў, справай распаўсюджваньня вогнетрывалага будаўніцтва займаліся некаторыя грамадзянскія ўстановы*). У 1796 годзе была выкарыстана Ніжагародзкая ярмарка (кірмаш) для мэт распаўсюджваньня вогнетрывалага будаўніцтва; дзеля чаго, на самай ярмарцы (кірмашы) было пабудована некалькі прыкладных вогнетрывалых будынкаў і аднячасна былі наладжаны на гэтым кірмашы практычныя курсы па вывучэньню вогнетрывалага будаўніцтва**). Але і гэтыя добрыя замеры былі скора закінуты, як і раней, і справа далей паўзла смаўжом.

Так цягнулася да 1911 года й толькі 7-га лістапада т. г., калі справа вогнетрывалага будаўніцтва зацікавіла пэўныя і грамадзянскія колы, была склікана ў б. С.-Пецярбурзе І Ўсерасійская Нарада спэцаў па вогнетрываламу будаўніцтву. Даволі значная многалікасьць зьехаўшых (300 чалавек) на Нараду, сьведчыла аб тым, што сярод грамадзянства гэтае пытаньне было цікавым, а нават балючым і неабходным. Калі азнаёміцца з пытаньнямі пастаўленымі на абгавор Нарады й з тымі прынятымі пастановамі, то здавалася-бы, што справа не павінна была-б так і далей смаўжом паўсьці, тым больш, што лічбы даводзілі аб страшэнным зьявішчы таго, што тагочасная Расія ў працягу 30 год выгарала ўся, г. з., што пажараў у працягу 30 гадоў было столькі, колькі на ўсёй Расіі было будынкаў***).

---

*) Працы Императорского Московского Общ. С.-Хозяйства, выпуск IX и XXV 1889, 1883 г., Московского Отделения Императорского Русского Технического Общества 1889, 1892 г.

**) Падрабязна азнаёміцца па гэтаму пытаньню магчыма у кнізе „Сельскія Огнестойкія постройки вообще и в частности на Всероссийской 1896 г. выставке в Нижнем-Новгороде. Их история, значение, техника, современное положение и желательная будущность“ инж. В. М. Верховского 1898 г.

***) Глядзі кніжку „Статистика пожаров в Российской Империи за 1895—1910 годы“.

Такім чынам бачым, што калі-б гэта важная справа была наладжана з пачатку, то да гэтага часу заставалася-б вельмі ня многа давесьці яе да канца.

Але цяпер мы павінны памятаць, што настаў Чырвоны Кастрычнік, а з ім і вялікія настаўнікі, якія нам далі школу, згодна якой мы павінны ўмець тварыць новы быт, новае жыцьцё, паступова ідучы ўперад.

Вось часткай новага быту і новага жыцьця нашага селяніна й будзе, калі ён завядзе ў сябе вогнетрывалую будоўлю.

Якія вогнетрывалыя будынкі лічыць больш адпавядаючымі ўмовам Беларусі, і як падыйсьці да вырашэньня гэтага пытаньня?

Ведама ўсім, што вогнетрывалымі будынкамі лічаць такія, якія не гараць; да гэтакіх належаць будоўлі цэгляныя, каменныя, цэмэнтовыя, глінанабіўныя і мазанкі.

Разглядаючы паасобна кожны з памянёных тыпаў будынку, трэба мець на ўвазе магчымасьць ажыцьцяўленьня яго ў умовах Беларусі.

Цэгляныя будынкі, мо' і найлепшыя, але патрабуюць добры мат'рял: цэглу, вапну і майстроў, чаго на вёсцы ў сучасны момант зусім не дастаць.

Будынкі з каменьняў, мо' і добрыя і больш усяго адпавядаюць умовам Беларусі, але прымаючы пад увагу тое, што каменныя будынкі трымаюць вільгаць і ня трымаюць цяпло, чаму пашыраць іх ня вельмі пажадана.

Калі затрымацца над будоўляй з цэмэнтовай цэглы, то гэты спосаб пакуль-што павінен быць зусім адкінуты. Справа ў тым, што на Беларусі выраб цэмэнту зусім не наладжаны, (хаця геолёгічныя досьледы 1924 года сьведчаць аб магчымасьці разьвіцьця гэткай прамысловасьці), а дастаўка яго ў значнай колькасьці з-за межаў Беларусі вельмі каштоўна. Выраб самой-жа цэглы таксама каштоўны й патрабуе добра падгатаваных майстроў.

Вось такім чынам застаюцца будынкі глінанабіўныя і мазанкі. Трэба заўважыць, што гэтакая будоўля больш усяго адпавядае ўмовам у нас на Беларусі. Матар'ял, як гліна і салома, магчыма знайсьці ў кожнай мясцовасьці і ў кожнай вёсцы, майстрам па гэтай будоўлі можа быць сам селянін са сваей сям'ёй. Астаецца адпаведным установам прысьці на падмогу селяніну ў пабудаваньні глінанабіўных будынкаў. Гэтыя абавязкі павінны ўзяць на сябе дзяржаўныя ўстановы і коопэрацыя. Адна з такіх магчымасьцяй даваць дарады сялянству па вогнетрываламу будаўніцтву, гэта ёсьць організацыя належных курсаў, толькі ня ў цэнтры, а на раёнах. Організацыя курсаў павінна быць наладжана такім чынам, каб слухачамі іх былі людзі мясцовыя і больш-менш падгатаваныя па агульнай асьвеце; такімі людзьмі часьцей будуць члены КСМ і паступовыя сяляне.

Програма курсаў павінна быць апрацована так, каб у 3-4 летнія месяцы на працягу двух год закончыць увесь курс вывучэньня па будове глінанабіўных будынкаў. Дзеля здабыцьця даверра, зацікаўленасьці і распаўсюджваньня сярод сялянства было-б пажадана, каб практыка с курсантамі пад час занятку на курсах праходзіла пры пабудаваньні вогнетрывалых будынкаў дзяржаўнага і коопэрацыйнага значэньня (хаты-чытальні, школы, пошты, коопэрацыйныя крамы і прадпрыемствы, дамы сельсаветаў і райкомаў і г. д.).

Здабыцьцё першага кадра інструктароў-выкладчыкаў ня так ужо трудна. Кожны будаўнічы-тэхнік, інжынэр, архітэктар, спагадаючы справе, надта лёгка можа азнаёміцца з адпаведнай літаратурай і будзе карысным інструктарам-выкладчыкам.

У дадатак усяго і для шпарчэйшага распаўсюджваньня вогнетрывалага будаўніцтва належала-б ужыць наступныя мерапрыемствы:

1) Выдаваць сялянам пэўныя ўзнагароды за пабудоўлю вогнетрывалага будынку ці іншых гаспадарчых будынкаў (у залежиасьці ад плошчы). Выдаваць паасобныя ўзнагароды за вогнетрывалыя *стрэхі і сталяваньні*.

3) Зьменшыць страхоўку за вогнетрывалыя будоўлі.

4) Выдаваць лес па паніжанай цане на вогнетрывалыя будоўлі.

5) Друкаваць, як мага больш, папулярнай літаратуры з малюнкамі па вогнетрываламу будаўніцтву і спосабы разьмяшчэньня гаспадарчых будынкаў на тых ці іншых сялібах.

Вось тыя мерапрыемствы, якія могуць зьменшыць лік штогодніх пажараў на Беларусі.

Ч. Р.



# ЛЕСНОЕ ХОЗЯЙСТВО

## Об организации „Общества друзей леса“.

I.

Наша Рабоче-Крестьянская Республика укрепляется без поддержки внешнего кредита. Поэтому она вынуждена обращать свое внимание на, так называемые, неналоговые доходы и, главным образом, на доход от леса. А это, без сомнения, в ближайшем будущем облегчит налоговые тяготы крестьянства.

В годы революции лесные богатства страны помогли спасти наши революционные города: они дали топливо фабрикам, заводам и транспорту в те трудные дни, когда донецкий уголь и бакинская нефть были в руках белогвардейцев.

Но и этим не исчерпывается все значение и заслуги леса. Лес имеет большую народно-хозяйственную ценность. В области земледелия он влияет на климат, увеличивает количество выпадающего дождя; лес предохраняет почву от засухи, защищает ее от разрушения по берегам рек и оврагов, задерживает сыпучие пески. Лес оздоровляет воздух, повышает уровень воды в реках, дает древесину на постройки, топливо и ряд разнообразнейших материалов, необходимых человеку. В лесу же производятся и различные „побочные пользования“ пастьба скота, сенокошение, охота и пр.

Несмотря на эту громадную и очевидную пользу, получаемую от леса, человек наших дней не всегда это ценит. Причина в том, что с момента зарождения культуры, как только впервые появились на земле обработанные поля под посевами хлебов, человек начал вести борьбу с лесными пространствами. Он отвоевывал у них площади для своих посевов с помощью ближайшего своего союзника—огня.

В те далекие времена в этом был смысл (культурно-историческая закономерность). В борьбе с лесом образовались первые общества хлебопашцев, но вместе с этим поселилось в человеке и враждебное отношение к лесу. Дальше оно превратилось у человека в инстинкт истреблять лес.

Века царского рабства укрепили в нашей стране эту ненависть хлебороба к помещичьим, монастырским и казенным лесам. Знание о значении леса в жизни природы и его месте в хозяйстве целой республики не проникало тогда в народные толщи, и теперь мы видим результаты этого. Попрежнему огонь, возникающий из за корысти или небрежности людей, уничтожает тысячи десятин леса. Попрежнему происходят самовольные рубки и самовольные распашки лесных пло-

щадей. Молодняки затравливаются скотом, а строевой лес употребляется на дрова и т. д. К этому добавим, что леса достались нам после хозяйничания помещиков и лесопромышленников, которые опустошали «свои» лесные дачи в целях получения больших барышей. Дальнейшее разрушение лесов продолжалось во время царской войны и революции усиленными рубками на топливо. Поэтому нам становится ясным, что все это неминуемо ведет к полному расстройству нашего лесного хозяйства и угрожает некоторые лесные районы превратить в безлесные.

Борьба с истребительским инстинктом населения только изданием декретов, запрещений и путем применения строжайших мер наказания не может окончательно сломить упрямства отсталого человека; только разумное отношение крестьянской массы к лесу позвоилит легко проводить в жизнь все меры по выращиванию, уходу и охране наших лесных богатств.

Стало быть, помочь крестьянину осознать все значение леса в жизни страны и побороть в нем инстинкт лесоистребления—вот задача «Общества друзей леса».

Этот вопрос уже назрел и есть много попыток к организации подобного рода кружков и обществ.

Идея эта, хотя и не новая, но вполне разумна и требует немедленного проведения ее в жизнь.

II.

Работа «Общества друзей леса» будет иметь громадное социальное значение и послужит началом дружной коллективной и напряженной работы всех трудящихся по восстановлению лесного хозяйства.

Думаю, что задачи «Об-ва друзей леса» намечаются самой жизнью:

1. Широкое распространение путем докладов, лекций и бесед среди крестьянского населения и, главным образом, среди его молодежи основных знаний о лесе и о лесном хозяйстве страны. Эти лекции и беседы должны, по возможности, сопровождаться туманными картинами и демонстрацией лесокультурных приемов.

2. Организация в тех же целях «лесных уголков-музеев» при избах-читальнях, издание брошюр, листовок и серьезная подготовка к проведению республиканского праздника «День леса».

3. Организация под руководством лесных специалистов некоторых лесокультурных работ по сбору лесных семян, по посеву и посадке леса на вырубках, по закладке питомников, по закреплению оврагов и облесению песков и, наконец, по созданию садов и парков.

4. Совместная с лесной стражей охрана леса от лесных правонарушений и пожаров.

Вместе с тем, практический подход к делу требует, чтобы членам «Общества друзей леса»—крестьянам были предоставлены в пределах законных возможностей и некоторые лесные льготы.

**И. Скоморохов.**

# О кредитовании населения лесом.

До войны из казенных и б. помещичьих лесов крестьянам на постройку отпускался исключительно мертвый лес (сухостой, бурелом, валеж). Сырой же лес продавался лесопромышленникам, которые его увозили из под носа близ лежащих деревень на Украину или за границу.

Теперь картина изменилась. На нужды сельского строительства и местных учреждений отводится определенная площадь делянок с сырорастущим лесом. Таких делянок отведено по всем лесничествам Белоруссии площадью около 7000 десятин и кроме них предоставляется почти весь сухостой, ветровал, бурелом и валеж. Всего леса отпускается на сумму около двух миллионов рублей.

Из этой суммы наше правительство разрешило отпустить леса бесплатно и по льготной цене на сумму 150.000 рублей. Лес пойдет главным образом, на постройки и отопление школ, больниц и беднейшему трудовому населению.

Наша Советская власть старается помочь всем трудящимся, но беда в том, что государство вынуждено соблюдать большую бережливость в расходах и ограничить свое желание помочь всем беднякам. В помощи же нуждаются многие.

Поэтому для облегчения возможностей приобретения леса беднейшему населению, в особенности погорельцам, расселенцам при землеустройстве и коллективным хозяйствам лес на постройки отпускается в долг через Белорусский сельско-хозяйственный Банк (Белсельбанк).

Наверное, на местах уполномоченные Белсельбанка при с.-х. кооперативных товариществах уже собрали справки, кто из селян нуждается в получении леса в долг. Если же сельско-хозяйственные кооперативные т-ва еще не сделали этого, то нужно самим подать заявление с указанием на какую постройку нужен лес. С.-х. кооператив, собрав эти сведения, делает заявку в Белсельбанк. Белсельбанк, после рассмотрения заявок в присутствии представителя комитета крестьянской взаимопомощи, выдает сельско-хозяйственному кооперативному т-ву, так называемую, ссуду в определенной сумме денег. Эта сумма распределяется товариществом между селянами, которые нуждаются в получении леса в долг. Ссуда выдается селянам на срок в 2 или 3 года. Выплачивается она по полугодиям или ежегодно. За пользование ссудой должник уплачивает сверх полученной ссуды небольшие проценты—по 6 коп. с рубля в год. В получении ссуды должник выдает с.-х. кооперативному т-ву обязательство. В нем пишется, какая ссуда взята в долг, в какие сроки и по сколько надо уплачивать каждый раз. Взамен этого обязательства с.-х. кооперативное т-во выдает должнику требование в ближайшее лесничество на отпуск леса. В требовании указывается, какую сумму и на какую постройку нужно отпустить лес. Лесничий по такому требованию т-ва отпускает следуемое количество леса по норме. Требование лесничий оставляет в канцелярии, и взамен выдает лесной билет на рубку и вывозку леса.

Надо знать, что лесничий может отпустить лес полностью только на ту сумму, какая стоит в требовании или немного большую, но ни-

как не на меньшую. Это потому, что тогда пришлось бы лесничему доплачивать должнику казенными деньгами, чтобы стоимость отпущенного леса в точности сравнялась с суммой, указанной в требовании. Но этого лесничий сделать не может, так как на этот счет казенных денег не имеет.

Если стоимость леса будет превышать ту сумму, какая указана в требовании, то получатель леса доплачивает разницу лесничему наличными деньгами.

Точно также можно брать ссуду не на всю стоимость леса нужного для какой нибудь постройки, а только на часть стоимости. Тогда в добавление к требованию получатель леса должен доплатить остальные деньги наличными. Положим, лес на постройку хаты стоит 60 руб., а селянин может уплатить наличными 20 руб. Ясно, что ссуду он будет просить на постройку хаты не на 60 руб., а только на 40 руб. Получив от т-ва требование к лесничему об отпуске леса на хату на сумму 40 руб., селянин идет в лесничество, отдает требование на 40 руб., доплачивает наличными 20 руб. и получает лес на 60 руб.

Все постройки, как вновь возведенные, так и отремонтированные лесом полученным в долг, должник обязан застраховать от пожара на сумму не меньше размера ссуды. Страховое свидетельство пред'является уполномоченному т-ва, который делает отметку на обязательстве должника и возвращает свидетельство обратно должнику для хранения.

Как видим, хлопоты по получению в долг леса небольшие. Дальше уполномоченного т-ва и лесничего ходить не приходится. Да и туда ходьба не большая. Первый раз с заявлением о получении леса в долг и 2-й раз за получением требования на лес, третий раз к лесничему за билетом. Польза же большая. С рассрочкой в 2-3 года можно по хозяйски обстроиться, и в новой хате начать строить новую жизнь.

**Я. Седашев.**



# КРАЯЗНАЎСТВА

## Да увагі агронома.

2-га сьнежня мінулага году скончыла сваю працу Ўсебеларуская краязнаўчая конфэрэнцыя, дзе былі прадстаўнікі ад розных краязнаўчых таварыстваў, вышэйшых навуковых і дасьледчых устаноў, працаўнікі асьветы і толькі ня было прадстаўнікоў мясцовай грамадзянскай агрономіі.

На запытаньне дэлегатам, ці прымае ўдзел па досьледу края мясцовая агрономія, быў часьцей адказ: „Агрономы ня ймкнуцца да гэтай працы“. Гэта зьявішча адзначана і ў рэзолюцыі прынятай на конфэрэнцыі. Артыкул XIII сьведчыць: „Конфэрэнцыя з жалем адзначае, што мясцовыя агрономы амаль зусім ня прымалі ўдзелу ў працы краязнаўчых організацый. Ніякая практычная дапамога агронома ня можа мець пад сабою пэўнага грунту ў абставінах незнаёмства з тым краем, дзе прыходзіцца працаваць. Загэтым, конфэрэнцыя заклікае ўсіх агрономаў да самага дзейнага ўдзелу ў краязнаўчай працы“.

Агроном сваёй мэтай ставіць практычную дапамогу сялянскай гаспадарцы, ён лечыць гэтую гаспадарку, як доктар хворага чалавека.

А вядома, што доктар заўсёды знаёміцца, у якіх умовах і абставінах жыве хворы, з чаго пачалася яго хвароба і г. д. Толькі пасьля поўнага вывучэньня ён можа параіць тое ці іншае лякарства. Перад агрономам гаспадарка выступае ўва ўсёй сваей нявыразнасьці—з культурай і бытам гаспадара, асабліва тэхнікай і экономікай, а гэтак-жа прыродна-гістарычнымі ўмовамі гаспадарваньня і г. д. Усё гэта ў большасьці нам агрономам мала вядома, а між тым мы прызваны паляпшаць сялянскую гаспадарку. Дзеля гэтага і патрэбна агрономам ўсебаковае вывучэньне таго краю, дзе яны працуюць.

На прыкладзе трох акруг (Менскай, Магілеўскай і Калінінскай), у якіх з працай агрономаў я прыблізна знаём, можна адзначыць, што ўхілу ў бок высьледваньня свайго краю ў агрономічных працаўнікоў мала. Дасьледчыя станцыі і навуковыя ўстановы толька распачынаюць гэтую працу, а між тым перабудова гаспадаркі ў зьвязку з землябудаўніцтвам ідзе шпарка наперад. Патрэбна вывучаць умовы гэтай перабудовы. Пакуль ня позна агрономам трэба брацца за сваю першачарговую працу, а дзеля гэтага трэба далучацца да краязнаўчых таварыстваў і супольна з імі вывучаць свой раён і ўсю Беларусь. Гэта нам паможа правілова паставіць сялянскую гаспадарку і тым дапамагчы яе разьвіцьцю і разьвіцьцю народнай гаспадаркі Рэспублікі.

У гэтым кірунку Агрономічны Аддзел НКЗБ хутка распрацуе плян і програму агрономічных досьледаў раёна; з гэтага і пачнецца праца агрономаў па вывучэньню свайго раёну.

Трэба пажадаць, каб агрономы былі звольнены ад ўсіх комісій, якія ня маюць дачыненьня да агрономічнай працы, як ацэнка сенажацяй, старых будынкаў і г. д. і былі накіраваны на непасрэдную агрономічную працу.

Краязнаўчая-ж праца і зьяўляецца аднэй з галін агрономічнай працы.

Агроном **Лайкоў**.

# З уражаньняў па Мазыршчыне.

## Прыродныя асаблівасьці.

Едучы па Мазырскай акрузе чыгункаю з Рэчыцы першае заўважыш лясістасьць мясцовасьці. Лес хваёвы й досыць добрага гатунку. На ападзоленых і выпаласканых грунтах трапляецца бярозавы і асінавы маладняк. Лепшыя грунты зарасьлі мяшаным лесам. Тут расьце дуб, граб, алешына, а сярод іх адзінкамі і цэлымі купамі хвойнік. Адзначым высокі гатунак дуба, як роўнасьць, вышыню і адсутнасьць дуплістасьці. Лес цягнецца вялікімі абшарамі ці асобнымі выступамі, якія злучаюцца паміж сабою вузкімі пралескамі. Наогул-жа можна сказаць, што лес на Мазыршчыне зьяўляецца яшчэ галоўным гаспадаром плошчы. А ўжо сярод лесу чалавекам адваёваны лепшыя кавалкі зямлі пад поле й сенажаці. Тут-жа сярод лесу параскіданы хутары й цэлыя вёскі.

Каля Рудні-Ўборскай сустракаецца мешаны лес (дуб, граб, клён, асіна, а каля нізін алешына й высокая густая лаза). Часта спатыкаецца дзікая яблыня й груша. Шмат дзе дубовы й грабовы лес мае выгляд прыгожага саду. Гэткі лес займае часта досыць значныя абшары па дарозе з Петрыкава ў Камаровічы. І вельмі цікава, што ў гэтых мяшаных лясох шмат магутных дубоў і грабаў ляжыць на зямлі пасьля шматвяковага жыцьця. Яшчэ болей іх спатыкаем у невялічкіх лесавых рэчках, якія літаральна завалены імі. Сколькі нескарыстанага багацьця! Стары хваёвы лес усё-ж тут рэдкасьць. Большасьць лесу маладога да 10—30 год. Гэта ўсё зарасьнік па вырубах лесу, якія адбываліся яшчэ да вайны.

Трэба адзначыць асаблівасьць жыхароў Мазыршчыны секчы сабе лучыну з жывых хваін. Гэта робіцца на адным і тым-жа дрэве на працягу некалькіх год. Урэшце застаецца толькі палова абалоні. Такіх папсутых дрэў значныя плошчы. Нізіны паміж узгоркаў найчасьцей зарасьлі хвойнікам, якому патрэбна мэліорацыя. На балотах да хвойніка прымешваецца бярэзьнік. За тое елка амаль нідзе не спатыкаецца. У сухія гады такія нізкія імшарныя балоты высыхаюць. Ад неасьцярогі ці выпадковых варункаў трапляюцца пажары. Купіны моху й невялічкія дрэвы выгараюць. Большыя дрэвы толькі абгараюць і нахіляюцца.

Першыя два-тры гады гарэлае балота мае досыць самабытны й дзікі выгляд. Затым яно пачынае зарастаць густою асакою і іншымі травамі, якімі жыхарства карыстаецца.

Агульны краявід за выключэньнем Мазыра і яго заходняй ваколіцы—раўніна, але і ня надта нізкая, як мне малявалася раней. Заходняя ваколіца і самы горад Мазыр досыць гарысты. Уся гэта частка мясцовасьці паступова падымаецца на захад, а за тым павісла абрываецца на беразе Прыпяці. Каменьняў тут зусім няма, як няма іх і па ўсёй акрузе.

Каля Мазыра ёсьць шмат узгоркаў белага кварцавага пяску. Як вядома з справачніку Мазыршчыны за 1922 год гэтым белым пяском (вёска Пхоў) былі зацікаўлены немцы-окупанты 1918 году. Гэты пясок быў праверáны ў нямецкіх лябораторыях з боку вартасьці й даў доб-

ікі. Зразумела, што пясок годзен дзеля вырабу шкла лепшага а лясістасьць мясцовасьці й водны шлях Прыпяці яшчэ больш аюць яго каштоўнасьць.

ругога боку, дасьледчай працай проф. Туткоўскага ў 1916 годзе ршчыне вызнаны плясты торфу таўшчынёю да 8 мэтраў.

о належыць да грунтоў Мазыршчыны, то яны выключна пеcка- менш супясковыя. Пяскі цягнуцца з-пад Мазыра аж да Мя- ı.

ьга абысьці моўчкі й дарогі. То пескавыя, то балотна-гразкія краіну перасякаюць уздоўж і ўпоперак. Брады мясцамі цяг- раз $1^1/_2$—2 вярсты. Асьцярожна едзе селянін і прыглядаецца ў бакі, каб ня зблудзіць і, зьвярнуўшы ў бок, не загінуць у дрыгве.

**Сьцяпан Кот**
(студэнт Менскага Сел.-Гасп. Інс-ту).

---

# Земляробства на Мазыршчыне.

Земляробства вядзецца даволі самабытна. Праўдзівы нават трох-польны севазварот падтрымліваецца рэдка (ён спатыкаецца ў вялікіх вёсках). Найчасьцей севазварот выпадковы—сеюць жыта па жыце, ці яравое жыта па зімовым. У тых выпадках, калі зямля распрацоўваецца з-пад лесу, сеюць часьцей жыта зімовае. У вёсцы Малы Бобрык па гэт-кай-жа пасецы пасеяна было пшано. Яно мела цёмна-зялёны колер, было густое, высокае, і дало добры ўраджай. Праўда, траплялiся пу-стыя лапіны ад залішняга ўгнаеньня попелам. Хутары і невялічкія пры-сёлкі, якія выніклі сярод лесу ў часы вайны, зусім ня маюць ніякага севазвароту. Яны чаргуюць расьліны, як папала. Там сеюць авёс, яч-мень, пшаніцу і ўсё гэта родзіць добра. Зямля яшчэ багата. Калі-ж грунты зусім бяднеюць, то на бліжэйшае поле селянін возіць гной, а далёкае запускае ў аблог дзеля воддыху. Спачатку воддых цягнецца 2-3 гады, а далей, пасьля 1-2 г. культуры, зямлю кідаюць у аблог ужо гадоў на 6. Пакінутае старае пескавое поле парастае рэдкаю пескавою расьлінасьцю. Галоўнымі хлябамі зьяўляюцца—жыта зімовае і яравое (ярыца), затым грэчка, бульба і пшано. Авёс, пшаніца, ячмень і лён спатыкаюцца рэдка і растуць дрэнна. Канюшыны і іншых харчовых траў, а гэтак сама і лубіну, ня сеюць. Да вайны яшчэ сеялі лубін, але ў часы вайны зьвялі. На полі шмат розных сарнін, якія заглушаюць збожжа, асобна яравое. Найчасьцей спатыкаецца гарэц пескавы (Poliqonum arenarium), гарэц разьвесісты (Poliqonum lapatifolium) і мелкаляпёстнік канацкі (Erigoron canadenbis). Апошні часта займае вялікія плошчы песка-вых аблогаў і робіць здалёк уражаньне засеву.

Гароды ўсюды дрэнныя. Часамі яны ляжаць далёка ад вёскі. На іх сеюць тытун, гуркі і кукурузу. Буракі і капуста ня родзяць.

Сады выглядаюць дрэнна. Дрэвы нізкарослыя і хворыя. У аднаго селяніна (вёска М. Бобрык) большасьць дрэў на камлёх маюць па-трэсканую ці зусім абшарапаную кару. Гэткі выгляд дрэў бывае вы-ключна з паўднёвага ці паўднёва-заходняга боку. Зразумелая рэч, што гэта марозабоіны ад недагляду сада.

---

# ОФИЦИАЛЬНЫЙ ОТДЕЛ

## По Управлению сельского х-ва.

### О премировании хозяйств, заложивших постоянные бюджетные записи.

*Минскому, Слуцкому, Борисовскому, Могилевскому, Мозырскому, Бобруйскому, Витебскому Окрземотделам и копия Наркомфину Белоруссии.*

*(От 17 ноября 1924 г. за № 2-В 3038).*

Инструкцией по премированию улучшенных приемов хозяйствования (§ 16 перечня приемов) предусматривалось премирование хозяйств за участие в агрономической пропаганде путем заложения постоянных бюджетных записей в хозяйстве, но представление льгот обуславливалось лишь групповым хозяйствам (колхозам, кооперативным организациям и проч.).

В настоящее время Центральное Статистическое Управление Белоруссии возбудило ходатайство о предоставлении льгот 12 отдельным крестьянским хозяйствам в Белоруссии, в которых осенью тек. года произведена закладка счетоводных записей.

По согласованию данного вопроса с Наркомфинбел, настоящим Управление сельского хозяйства НКЗема предлагает Окрзо включить в список премируемых хозяйств по округу отдельные хозяйства, представленные ЦСУ и перечисленные в прилагаемом к сему списке.

Премирование указанных хозяйств должно быть произведено в общем порядке, путем выдачи натуральной премии размером 10% от с.-х. налога и надбавки к нему, падающей на хозяйство.

Нач. Управсельхоза *Ремизов.*

Нач. Налогового Упр. НКФ *Бровкович.*

---

## По Управлению лесами.

### Об отпуске леса на дорожные сооружения с правилами.

*Всем Окрисполкомам, Окр. Зем. Отделам, Рикам, Окружным Инспекторам лесов и Лесничим БССР (от 25/XI 1924 г., № 4-В 16/2761).*

При сем препровождаются для сведения и руководства утвержденные Экособел. 31/X—24 г. Правила отпуска лесных материалов на дорожные сооружения.

Зам. Начальника Управления *Хрущов.*

Завед. Эксплоатационным Отделом *Седашев.*

Инспектор Эксплоатации лесов *Хоцянович.*

Утверждены Экособел 31 октября 1924 г. (прот. № 31).

# ПРАВИЛА.

На основании ст. ст. 23 и 25 Лесного Кодекса, для отпуска лесных материалов на дорожные сооружения устанавливается следующий порядок:

1. На ремонт дорог и мостов государственного и окружного значения лесные материалы отпускаются по существующим таксам из ближайших к месту сооружения свободных лесосек, на условиях отпуска леса для госучреждений и предприятий.

2. В тех случаях, когда отпуск лесоматериалов для дорог государственного и окружного значения по своим размерам превышает обычные мелкие отпуски (свыше 3 куб. саж. древесины в каждом отдельном случае), удовлетворяемые из лесосек для местных нужд, таковой производится по заявкам Белдоротдела или Омесзап., утвержденным Госпланом из общего лесосечного фонда, предназначенных к рубке.

3. Отпуск лесоматериалов для дорог местного значения, ремонт которых производится силами местного населения, производится на основании ст. 25 Лесного Кодекса и норм в пределах бесплатного и льготного отпуска леса устанавливаемых ежегодно ЭКОСО.

4. Во всех случаях отпуска леса на дорожное строительство таковой производится по сметам, утвержденным Дорподотделом в округах и Омесзапом по принадлежности; исключение составляют мелкие ремонты дорог местного значения с потребностью хвороста не свыше 5 куб. саж. и строевых материалов не свыше 1 к. саж. для каждого отдельного случая, которые отпускаются лесничими по требованию Райисполкомов из мертвого леса без предварительных смет.

5. Во всех случаях отпуска на дорожные сооружения, лесничества имеют наблюдение за израсходованием отпущенных лесоматериалов по прямому назначению. Расходование лесных материалов на расплату с рабочими и служащими, а также на приобретение не лесных строительных материалов (гвозди, железо и т. п.), категорически воспрещается, согласно ст. 26 Лесного Кодекса.—Подлинное за надлежащими подписями. Верно. Секретарь Экособел (Подпись).

## Об изменении размера % по кредитованию лесом.

Циркуляр № 21.

*Всем Окринспекторам лесов и Лесничим БССР. (От 16/XII 1924 г., № 4-В/4728).*

В дополнение к разосланным 14 октября с. г. за № 12033 правилам по кредитованию лесом, Управление лесами сообщает для сведения, что Экономическое Совещание Белоруссии 17 ноября с. г., протокол № 32, постановило: „Взимать по кредитованию Белсельбанком лесом населения вместо установленных восьми (8%), не свыше шести (6%).

Подлинное подписали: Зам. Нач. Управлесами *Хрущов.*

Завед. Эксплоатационным Отделом *Седашев.*

Инспектор Эксплоатации лесов *Хоцянович.*

Адказны рэдактор Зьм. Прышчэпаў.

Выданьне Наркомзема і Белсельпромсаюза.

# Зьмест.



